Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

1-га САКАВІКА

## № 4—5



ВЫДАНЬНЕ ЦК КП (б) Б
МЕНСК—1929

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся.*

## Заўважаныя памылкі друку.

| Стар. | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 4 | 3 зьнізу | вывучэньня | вывучэньні |
| 5 | 15 зьверху | прымярэнству | прымірэнцтву |
| " | 24 " | Колкасны | Колькасны |
| " | 27 " | фракцыяй | фракцыі |
| " | 3 зьнізу | вырашэньне | вырашэньні |
| " | 1 " | унутры-партыйнай | унутры партыйнай |
| 6 | 10 зьверху | дыстыпліну | дысцыпліну |
| " | 21 " | бюракратыўшыхся | абюракратыўшыхся |
| 7 | 4 " | ухілу | ухілаў |
| " | 8 " | прадпрыемствы | прадпрыемстве |
| 8 | 9 " | эргетычнай | энэргетычнай |
| " | 14 " | Совгасаў | Саўгасаў |
| " | 24 " | у справы | у справу |
| 9 | 4 " | школ, дарослых рабочых гурткоў, | школ дарослых рабочых, гурткоў, |
| 15 | 2 зьнізу | не падрыхтоўвалася | не замацоўвалася |
| 43 | 16 зьверху | адвагі | зьдзьвігі |
| 49 | 16 " | абпрацоўцы | пераапрацоўцы |
| " | 9 зьнізу | сады | тагды |
| 51 | 32 зьверху | даць | быць |
| 52 | 4 зьнізу | вялікай | аб вялікай |
| 60 | 3 " | дыстыплінам | дысцыплінам |
| 63 | 11 " | па ВПШ | па СПШ |

ВЫДАНЬНЕ ЦК КП (б) Б

МЕНСК 1929

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся.*

# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ



## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

1-га САКАВІКА

## № 4 (5)

ВЫДАНЬНЕ ЦК КП (б) Б

МЕНСК 1929

# Вывучайце і папулярызуйце пастановы XII зьезду КП(б)Б.

## Аб папулярызацыі пастаноў XII зьезду КП(б)Б.

*(Пастанова ЦК КП(б)Б).*

1. Усю работу па вывучэньні і папулярызацыі пастаноў XII зьезду КП(б)Б праводзіць пад кутом погляду ўзмоцненай барацьбы супроць ухілаў ад ленінскай лініі партыі і прымірэнцтва да іх. Не паслабляючы барацьбы з контр-рэволюцыйным трацкізмам, асабліва зьвярнуць увагу на барацьбу супроць найбольш небясьпечнага ў сучасны момант правага ўхілу і прымірэнцтва з ім.

2. Паставіць даклады аб выніках работы зьезду на сходах партактыву.

3. Даклады аб выніках XII зьезду паставіць на адкрытых сходах партячэек з максымальным прыцягненьнем да іх камсамолу і беспартыйных рабочых.

4. Паставіць даклады аб найбольш актуальных асобных пытаньнях XII зьезду ў горадзе на рабочых сходах, а ў вёсцы на сходах батракоў, беднаты і серадняцтва, асабліва завастраючы ўвагу на пытаньнях калектывізацыі і ўздыму ўраджайнасьці ў сувязі з правадзімай веснавой пасеўнай кампаніяй.

5. Падрабязную прапрацоўку пастаноў XII зьезду перанесьці ў сетку партасьветы.

6. У СПШ, прадметных гуртках, гуртках бягучай палітыкі а таксама ва ўсіх вячэрніх школах дарослых і моладзі, рабфаках, тэхнікумах і ў ВНУ прапрацаваць наступныя тэмы:

а) унутрыпартыйныя пытаньні (барацьба з ухіламі, асабліва з правым ухілам, разгортваньне ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і самакрытыкі, ачыстка партыі, вярбоўка рабочых батракоў і с.-г. рабочых у партыю);

б) аб пяцігодцы гаспадаркі і культуры БССР;

в) аб становішчы і задачах прафсаюзаў БССР. Паміма гэтага вывучэньне пастаноў зьезду ўключаецца ў адпаведныя прадметы (гісторыя партыі, эканамічная палітыка і г. д.).

7. У адзінай школе палітграматы праводзіцца адна асобная гутарка: становішча і задачы прафсаюзаў у БССР, а

астатнія пытаньні зьвязваюцца з адпаведнымі гутаркамі праграмы.

8. Даручыць АППА ЦК у бліжэйшыя дні распрацаваць заданьні і мэтадычныя ўказаньні па вывучэньні пастаноў зьезду, скарыстаўшы часопісь „у дапамогу партвучобе".

9. Даручыць Наркамасьветы даць дырэктыву аб формах і мэтадах папулярызацыі пастаноў XII партыйнага зьезду па лініі ўстаноў Наркамасьветы.

10. Даручыць рэдакцыям газэты пачаць сыстэматычную штодзённую папулярызацыю пастаноў XII зьезду КП(б)Б.

---

## Некаторыя мэтодычныя заўвагі.

I. Даклад аб ітогах XII З'езду КП(б)Б на ячэйках можна праводзіць па наступнай схэме:

1. Пытаньні сацыялістычнага будаўніцтва (перспектывы разьвіцьця прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, культуры—усё будаўніцтва пад кутком погляду індустрыялізацыі краіны індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскае гаспадаркі).

2. Сучасныя задачы нашага сацыялістычнага будаўніцтва і роля прафсаюзаў (перавыхаваньне новых рабочых, узьняцьце культурна-палітычнага ўзроўню рабочае клясы, павышэньне прадукцыйнасьці працы і палепшаньне матар'яльнага становішча рабочае клясы, усё больш і больш актыўны ўдзел мас у практычнай рабоце па сацыялістычнаму будаўніцтву на аснове разгорнутай рабочай дэмакратыі і самакрытыкі. Прафсаюзы на вёсцы).

3. Унутры-партыйныя задачы (асноўныя вынікі па барацьбе з ухіламі ад ленінскай лініі партыі у КП(б)Б; працягваньне не паслабленай барацьбы з контррэвалюцыйным трацкізмам і галоўны агонь па праваму ўхілу, найбольш небясьпечнаму у сучасны момант; задачы па разгортываньню ўнутры-партыйнай дэмократыі і самакрытыкі, ачысткі партыі ад разлажыўшыхся і чуждых элементаў. Асобна падкрэсьліць асаблівасьці ў БССР).

Матар'ялам для даклада можа служыць—даклады і рэзалюцыі З'езду, даклад т. Славінскага на сходзе партактыву Менскай арганізацыі і рэзалюцыя па гэтаму дакладу.

Вельмі мэтазгодна склікаць кансультацыі для ячэйковых дакладчыкаў пры агітпропгабінэтах.

II. У вечпартшколах і гуртках і ў інш. навучальных установах, дзе прапрацоўваюцца тры тэмы па пытаньням З'езду, карыстаюцца ніжэй надрукаванымі мэтодраспрацоўкамі.

III. Пры вывучэньня рашэньняў З'езду ў адзінай школе палітграматы карыстаюцца для асобнай гутаркі мэтодраспрацоўкай „Становішча і задачы профсаюзу БССР". Унутры-

партыйныя пытаньні ўвязваюцца з гутаркамі аб уставе партыі і аб адзінстве партыі.

IV. Усе вывучэньні XII-га З'езду павінны праводзіцца пад куткам погляду вырашэньня практычных задач у данай ячэйцы прадпрыемства і г. д. і сапраўджаецца выкананьнем практычных заданьняў вучнямі.

---

## Праграма для школьнай і самаадукацыйнай секцыі партасьветы.

**Тэма: Унутры-партыйнае становішча і нашы задачы.**

Мэта тэмы: Выявіць, што КП(б)Б за час з XI па XII— партыйны з'езд вяла працу па ўзмацненьню сваіх радоў і захоўваньню адзінства партыі, канчаткова разграміла рэшткі контррэвалюцыйнага трацкізму і дала рашучы адпор больш небясьпечнаму, у даны адбітак часу, яўна апартуністычнаму праваму ўхілу і прымярэнству да яго.

Што дзеля далейшага разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва і наступленьня на капіталістычныя элементы (кулака, нэпмана, бюракрата) патрэбна яшчэ большае ўзмацненьне барацьбы з ухіламі ад ленінскай лініі, яшчэ большае ўзьняцьце тэарытычнага ўзроўня КП(б)Б, уцягненьне лепшых перадавых пралетараў у партыю і ачысткі яе радоў ад разлажыўшыхся элементаў.

ПРАГРАМА.

Колкасны і якасны ўзрост КПБ, як вынік узьняцьця ідыёва-палітычнага ўзроўню ўсей партыі.

Канчатковы разгром рэшткаў трацкізму, які пасьля XV-га партыйнага З'езду з падпольна-партыйнай фракцыяй ператварыўся ў падпольна супроць-савецкую арганізацыю.

Барацьба з правым, яўна апартуністычным, больш небясьпечным у даны адбітак часу, ухілам і прымярэнствам да яго, як залог правядзеньня ўзятага партыяй тэмпу індустрыялізацыі і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і разгортываньне наступу на капіталістычныя элементы гораду і вёскі.

Энергічнае разгортываньне самакрытыкі, як унутры-партыйнай арганізацыі, таксама і ва ўсіх арганізацыях з верху да нізу і з нізу да верху, сваечасовае рэагаваньне на яе, разгортываньне ўнутры-партыйнай дэмакратыі, як забясьпека ў сапраўдным уцягненьні шырокіх мас у вырашэньне важнейшых пытаньняў партыйнай працы, як забясьпека барацьбы з хваравітымі зьявішчамі ўнутры-партыйнай арганізацыі.

Пастаноўка партыйнай асьветы ва главу ўгла ўсей партыйнай работы, узьняцьце тэарытычнага ўзроўню ўсей КП(б)Б і беспартыйнага рабочага актыву, як *неабходнае* для сапраўднага кіраўніцтва масамі.

Рацыяналізацыя партыйнай працы, паляпшаньне партыйнага кіраўніцтва з верху да нізу, жывое інструктаваньне мейсц, як спосаб забясьпячэньня лепшай пастаноўкі ўсей партыйнай работы.

Разгортываньне далейшае працы па барацьбе за адзінства партыі, за зялезную дыстыпліну ў яе.

Неабходнасьць „перыядычнай чысткі радоў камуністычных партыяў, працуючых у легальных умовах, каб сыстэматычна ачышчаць партыю ад немінуча прымазваючыхся да яе дробна-буржуазных элямэнтаў (Ленін).

Яшчэ большая неабходнасьць перыядычнай чысткі „Адзінственна легальнай палітычнай партыі ў краі, куды ўстраміліся шукаючы прыкладаньня сваіх сіл гэткія групы і слаі, якія пры інш. умовах находзілісь-бы не ў радох камуністычнай партыі, а ў радох сацыял-дэмакратыі альбо інш. разнавіднасьці дробна-буржуазнага сацыялізму“—„Ачыстку партыі ад мазурыкаў ад бюракратыўшыхся, ад нячэстных, ад няцьвердых, неўстойлівых камуністых“ (Ленін). Ад кар‘ерыстых, ад чуждых элямэнтаў, ад растратчыкаў, шкоднікаў, антысемітых, шовіністых і інш.

Лепшая падрыхтоўка да чысткі, уцягненьне шырокіх працоўных мас у гэтую справу, увязваньне чысткі з важнейшымі чарговымі задачамі партыі, як забясьпека безпамылковага правядзеньня яе.

Разгортываньне культурна масавай, партыйна-выхаваўчай працы сярод рабочых мас, як забясьпека посьпеху ў працы па „вярбоўцы лепшых, найбольш вытрыманых і сьвядомых, інтэрнацыянальна выхаваных вытворчых рабочых і батракоў у партыю, паставіўшы задачу—да канца 1930 году мець у радох КП(б)Б ня менш 50 проц. вытворчых рабочых і батракоў“. (З рэзалюцыі па справаздачы ЦК КП(б)Б).

Уцягненьне работніц і батрачак у грамадзка-палітычнае жыцьцё, складаньне адпаведных матар‘яльных і бытавых умоў, як забясьпека для магчымасьці ўцягненьня лепшых жанчын у партыю.

Больш уважлівыя адносіны да росту камсамолу, ачысткі КСМ ад прымазаўшыхся элямэнтаў, большае кіраўніцтва клясавым, палітычным выхаваньнем у КСМ, як забясьпека сапраўднага прэтварэньня КСМ у падрыхтоўчую школу да КП(б)Б.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАНЬНІ.

1. Як забясьпечыць на прадпрыемстве колькасны і якасны ўзрост партыйнае арганізацыі?

2. Як у Вас на прадпрыемстве разгорнута самакрытыка?

3. У чым сутнасьць правага ўхілу?

4. Чаму трэба весьці барацьбу з прымерэнчымі адносінамі да ўхілу?

5. Чаму ўмовы Беларусі больш, спрыяюць разьвіцьцю розных ухілаў і хістаньняў?

7. Якія недахопы ў пастаноўцы партыйнае асьветы на вашым прадпрыемствы.

ЛІТАРАТУРА:

Мінімум:

Матар'ялы да справаздачы ЦК КП(б)Б, стар. 120—182.

Справаздача ЦК КП(б)Б, разд. „Партыя", газэта „Зьвязда" № 31 ад 9-II—1929 г.

Рэзалюцыя па дакладу ЦК КП(б)Б разьдз. „Задачы ўнутрыпартыйнай работы", газ. „Зьвязда" № 38 ад 17-II—1929 г.

Даклад тав. Васілевіча „Аб вербоўцы рабочых у партыю, рэгуляваньне росту і чыстцы КП(б)Б, газ. „Зьвязда" № 40 ад 20-II—29 г.

Рэзалюцыя па справаздачы ЦКК КП(б)Б, газэта „Зьвязда" № 39 ад 19-II—1929 г.

Рэзалюцыя ЦК ВКП а вербоўке ў партыю і чыстцы яе радоў, „Известия" ЦК ВКП № 4 за 1929 г. февраль.

Максімум:

Е. Ярославский „Вчерашний и Завтрашний день троцкизма", журн. „Большевик" № 2 за 1929 г.

„ „ „Завершенный круг", журн. „Большевик" № 23—24 за 1928 г.

„ „ „Как Ленин подходил к вопросу о чистке".

## Тэма: Аб кантрольных лічбах 5-ці гадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР.

Мэта тэмы—паказаць, як на аснове дасягненьняў у сацыялістычным будаўніцтве БССР намеркаваны 5-ці гадовы плян разьвіцьця можа быць ажыцьцяўлен, што дзеля выкананьня пляну неабходна вялікая напруджанасьць, уцягненьне ўсіх працоўных ў гэтую справу. Цяжкасьці, якія будуць сустракацца на гэтым шляху і як іх перамагаць.

Высьвятліць канкрэтныя пэрспэктывы разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР за 5 год.

## ПРАГРАМА.

Працэс адстанаўленьня і сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі БССР. Рост удзельнай вагі прамысловасьці у народнай гаспадарцы і падвышэньне ролі буйнай прамысловасьці. Колькасны і якасны рост сельскае гаспадаркі—адставаньне тэмпу разьвіцьця ад тэмпу разьвіцьця

прамысловасьці. Разьвіцьцё сацыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі (калектывізацыя, вытворчае каапэраваньне, спажывецкае каапэраваньне). Неабаснаванасьць тэорыі дэградацыі. Цяжкасьці у гаспадарчым будаўніцтве, зьвязаныя з агульна саюзнымі цяжкасьцямі. Асаблівасьці БССР.

Агульная устаноўка 5-ці гадовага пляну разьвіцьця БССР. Асноўныя лічбы, якія характарызуюць разьвіцьцё нашае гаспадаркі у бліжэйшыя 5 год: у галіне капітальнага будаўніцтва, разьвіцьця эргэтычнай базы, разьвіцьця усёй прамысловасьці электрафікацыі, хэмізацыі, жыльлёвага будаўніцтва, разьвіцьця транспарту і сувязі. Праблема працы. Шкоднасьць тэорыі повольнага тэмпу і індустрыялізацыі. У галіне сельскае гаспадаркі: індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі, яе калектывізацыя. Пабудова новых Совгасаў і дапамога старым. Узьняцьцё ураджайнасьці, павялічэньне сяўбовай плошчы, таварнасьці, мэліарацыі, земляупарадкаваньне, разьвіцьцё лесной гаспадаркі. Неправідловасьць тэорыі замядленьня тэмпу калектывізацыі і будаўніцтва буйных Саўгасаў. Далейшы наступ на капіталістычныя элементы вёскі. У галіне тавараздвароту: разьвіцьцё каапэрацыі, уцягненьне сродкаў грамады, выціскаваньне прыватна-капіталістычных элементаў. Разьвіцьцё саматужнай прамысловасьці і яе аграмаджаньне.

Уцягненьне шырокіх пралетарскіх мас у справы індустрыялізацыі, палепшаньне якасьці вытворчасьці, зьніжэньне сабекошту, зьніжэньне кошту будаўнічых матар'ялаў і палепшаньне якасьці будаўніцтва, рацыяналізацыя вытворчасьці.

Уцягненьне сялянства—беднаты і серадняцтва у справы сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, стымуліраваньне росту, індывідуальнай бедняцка-серадняцкай гаспадаркі. Узьняцьцё аграграматнасьці насельніцтва.

Павышэньне долі пралетарыяту ў нацыянальным даходзе БССР. Узьняцьцё матар'яльнага добрабыту усіх працоўных. Рост на гэтай падставе культурных запатрэб працоўных і іх здавальненьне. Зьнішчэньне няпісьменасьці за 5 год, увядзеньне усеагульнага навучаньня, дапамога дзецям беднаты, разьвіцьцё сацыяльнага выхаваньня і прафэсыянальна-тэхнічнай асьветы, клясавае камплектаваньне навучальных устаноў; паляпшэньне матар'яльных умоў і якасьць працы сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. Падрыхтоўка кадраў спэцыялістых, палепшаньне аховы здароўя, пашырэньне сеткі дашкольных і пазашкольных устаноў на вёсцы. Правідловае правядзеньне вытрыманай і пасьлядоўнай нацыянальнае палітыкі. Разьвіцьцё друку, кіно, мастацтва, літаратуры. Цяжкасьці у правядзеньні культурнай рэвалюцыі. Цяжкасьці у правядзеньні выкананьня усяго пляну і задачы партыі па іх праадаленьні.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАНЬНІ:

1. Што вы ведаеце аб 5-ці гадовым пляну разьвіцьця Вашага прадпрыемства?

2. Растлумачце прычыны цяжкасьцей у справе сацыялістычнага будаўніцтва?

3. Растлумачце, што намеркоўвае плян для правядзеньня аграмаджаньня сельскае гаспадаркі і для стымуліраваньня росту бедняцка-серадняцкай гаспадаркі?

4. Што вы ведаеце аб пляну культурнага будаўніцтва у пяцігодцы па Вашай акрузе—раёну?

5. Чым Ваша прадпрыемства можа дапамагчы вёсцы у правядзеньні перабудовы сельскае гаспадаркі?

### ЛІТАРАТУРА:

Матар'ялы да справаздачы ЦК КП(б)Б, стар. 11—54.

Матар'ялы да дакладу Галадзеда і Каркліна на XII з'езде КП(б)Б Дзярж. Плянав. Камісія БССР, Менск, 29 г.

Рэзалюцыя па дакладу А 5-ці гадовым пляну разьвіцьця БССР.

Рэзалюцыя па справаздачы ЦК КП(б)Б, разд. 1, 2, 3, 4, 5, газ. „Зьвязда", № 38 ад 17-II—29 г.

Даклад т. Галадзеда аб кантр. лічбах 5-гад. пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР. газ. „Зьвязда".

Карклін аб кантрольных лічбах 5-гадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры БССР, газ. „Зьвязда".

### Тэма: Становішча і задачы профсаюзаў БССР.

Мэта тэмы: Высьвятліць ролю прафсаюзаў, як прываднага рэмню ад партыі да клясы, як школы камунізма і паказаць, што разам з цэлым шэрагам станоўчых момантаў (колькасны рост прафсаюзаў, узьняцьце матар'яльнага, культурна-палітычнага ўзроўню рабочых мас, рост прадукцыйнасьці працы і павялічэньне іх актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве) маецца яшчэ ва ўсіх галінах шмат адмоўных момантаў, зьнішчэньне якіх зьяўляецца аснаўной задачай прафсаюзаў на бліжэйшы час.

### ПРАГРАМА.

Прафсаюзы, як арганізацыі абароны інтарэсаў (матар'яльных, культурных, бытавых і г. д.) рабочай клясы, як арганізацыі іх уцягненьня ў сацыялістычнае будаўніцтва, перавыхаваньня мас і падрыхтоўкі з іх сьвядомых будаўнікоў сацыялізму. Паказацелі паляпшэньня матар'яльнага становішча і ўзьняцьця культурна-палітычнага ўзроўня рабочых мас у БССР. Узрост ліку школ, дарослых рабочых гурткоў, клюбаў, пісьменасьці, заработнай платы. Рост прадукцыйнасьці працы, як паказацель росту клясавай сьвядомасьці і культурнасьці рабочай клясы.

Прагулы, нядбайныя адносіны да працы, п'янства, хуліганства, як вынік адсталасьці асобных пластоў рабочай клясы, налічча ўплыву клясава-варожых элемэнтаў на яе. Уплыў у гэтым напрамку новых пластоў, якія ўцягваюцца ў вытворчасьць з вёскі, задача перавыхаваньня гэтых пластоў, разьвіцьця іх клясавай сьвядомасьці, уцягненьне іх у сацыялістычнае будаўніцтва. Задачы ўцягненьня жанчын у вытворчасьць і іх перавыхаваньне.

Адставаньне тэмпу ўзьняцьця прадукцыйнасьці працы ў параўнаньні з нашымі плянавымі меркаваньнямі, як адна з прычын нашых цяжкасьцяў. Сувязь палепшаньня становішча рабочай клясы з узьняцьцем прадукцыйнасьці працы, работа вытворчых нарад як магутны фактар узьняцьця прадуктыйнасьці працы, павялічэньня актыўнага ўдзелу мас у сацыялістычным будаўніцтве.

Сваечасовае выкананьне каштоўных прапаноў вытворчых нарад, як залог пасьпяховасьці іх працы. Барацьба на „два фронта“ супроць нядбайных, няўважлівых адносін да інтарэсаў і запатрабаваньняў рабочых, з аднаго боку, і супроць рвачаства—з другога.

Разгортываньне прафсаюзнай дэмакратыі і самакрытыкі, як магутны шлях выкарчоўваньня нашых недахопаў, перавыхаваньне рабочых мас, вылучэньне з іх асяродзішча ўсё новых і новых будаўнікоў. Роля насьценай газэты, рабкора, лёгкай кавалерыі ў гэтым напрамку. КСМ, як аснаўнік-ініцыятар аснаўных задач профсаюзаў. Узьняцьце культурна-палітычнага ўзроўню рабочае клясы, павышэньне яе тэхнічнай кваліфікацыі, яе клясавай сьвядомасьці — важнейшая чарговая задача, асабліва ў час разгорнутай сацыялістычнай рэканструкцыі, узмоцненага наступленьня на капіталістычныя элементы і абастрэньне клясавай барацьбы ў горадзе і на вёсцы.

Беларусізацыя — магутны фактар узьняцьця культурна-палітычнага ўзроўню мас, узмацненьне саюза рабочае клясы і беднаты з серадняком пад кіраўніцтвам пралетарыяту, узмацненьне дыктатуры пралетарыяту.

Работа на новых нацыянальных меньшасьцяў як фактар узняцьця культурна-палітычнага ўзроўня рабочых нацменьшасьцяў, іх пралетарска-клясавае выхаваньне, павялічэньне іх удзелу ў сацыялістычным будаўніцтве.

Інтэрнацыянальны, пралетарска-клясавы характар культурна-выхаваўчай работы нашых профсаюзаў. Роля саюзаў на вёсцы, як праваднікоў пралетарскага ўплыву на сялянства, праваднікоў і ініцыятараў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Прафсаюзы як рэзэрв новых кадраў найбольш вытрыманых, клясава сьвядомых, інтэрнацыянальна выхаваных рабочых для партыі.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАНЬНІ:

1. Што вы ведаеце аб колькасным росьце профсаюзаў у БССР, профсаюзаў Вашай акругі, Вашага профсаюза?

2. Што робіцца Вашым саюзам або Вашым заўкомам для перавыхаваньня і ўцягненьня ў актыўную работу новых рабочых.

3. Ці заўважаліСь пры заключэньні каляктыўных дагавароў моманты рвачаства з боку некаторых рабочых або нядбайныя адносіны з боку гаспадарнікаў і як на гэта рэагаваў саюз.

4. Ці ёсьць няпісьменныя ў Вашым саюзе або на Вашым прадпрыемстве і што робіцца ў Вашым саюзе для яе ліквідацыі, а таксама, што робіцца сябрамі Вашага саюзу для ліквідацыі няпісьменасьці ў іншых саюзах, на вёсцы.

5. Што робіцца на вашым прадпрыемстве для барацьбы з прагуламі, п'янствам, хуліганствам?

6. Як выконваюцца прапановы вытворчых нарад на вашым прадпрыемстве?

7. Што Вы лічыце неабходным рабіць для ўцягненьня рабочых у партыю.

### ЛІТАРАТУРА.

Гамарнік. Справаздача ЦК КП(б)Б, „Зьвязда“ № 31—9 лютага, разд. III аб клясах, аб клясавай барацьбе, аб палітычным становішчы.

Гамарнік. Рэзалюцыя па справаздачы ад 17 лютага № 38 „аб прафсаюзнай рабоце“.

Рыжоў. Даклад на XII з'езьдзе КП(б)Б, „Зьвязда“ № 40—20 лютага.

Рэзалюцыя па гэтаму дакладу.

Максімум:

Томскі. Даклад і рэзалюцыя па дакладу на XII-м з'езьдзе прафсаюзаў.

---

# Арганізацыя і мэтодыка партасьветы

## Аб формах і мэтадах падрыхтоўкі прапагандыста.

Агульна ўстаноўлена, што ў нашай сеці партасьветы маецца ня мала недахопаў, якія вельмі адмоўна адбіваюцца на выніках гэтай працы. Мы можам зноў адзначыць некаторыя колькасныя посьпехі ў нашай рабоце па партасьвеце. Вынікі камплектаваньня гавораць аб тым, што, ня гледзячы на дабраахвотнасьць яе, мы ў гэтым годзе ня толькі ня маем памяншэньня ліку ахопленых вучобай, але нават і некаторае павялічэньне. Павысіўся таксама ўзровень партасьветы і значна ўзрасьлі сярэднія і вышэйшыя зьвеньні яе. Усё гэта так. Але рашучага якаснага паляпшэньня ўсё яшчэ няма.

І гэта наглядаецца як з боку мэтодыкі, так і зьместу.

Ёсьць шмат выпадкаў тэорэтычнага ўпрашчэнства, прамых ідэолёгічных скажэньняў, няправільнага растлумачэньня лініі партыі, неправільных, ня чоткіх формуліровак.

Відавочна, што якасьць нашай партвучобы залежыць ня толькі ад зрываў прапускоў, адсеву і іншых „стыхійных“ бед, але крыецца ў значнай ступені ў падрыхтоўцы нашага прапагандыста, асабліва ў яго сыстэматычнай штодзённай падрыхтоўкі да заняткаў. І вось, калі мы прыгледзімся да гэтага кутку нашай працы, мы ўбачым, што тут справа абстаіць зусім нездавальняюча. Падрыхтоўка прапагандыста да заняткаў звычайна праводзіцца праз сэмінарыі. Гэтыя сэмінарыі існуюць у акруговых цэнтрах і ў найбольш буйных раённых цэнтрах гарадзкога маштабу. Сэмінарыі зьбіраюцца больш менш пэрыядычна. Але ў іх працы неімаверны разнабой. Яны ўжываюць самыя разнастайныя мэтады і зьмест у сваёй працы. Адны сэмінарыі абгаварваюць пытаньні заняткаў па зьместу, другія толькі з мэтадычнага боку, трэцяя як па зьместу, так і па мэтодыцы. Адны праводзяць заняткі сэмінарыя да кожных заняткаў школы ці гуртку, другія па больш менш вялікім разьдзелам праграмы.

Пры гэтым трэба адзначыць, што папярэдняя падрыхтоўка да заняткаў сэмінарыя прапагандыстых удзельнікаў сэмінарыя—вельмі рэдкае зьявішча. Рыхтуецца звычайна толькі дакладчык. Нам здаецца, што праца сэмінарыя дасьць належныя вынікі, сапраўды дапаможа прапагандысту ў рабоце, явіцца сродкам павышэньня яго тэорэтычнага ўзроўню,

яго кваліфікацыі толькі ў тым выпадку, калі заняткі сэмінарый будуць праводзіцца сыстэматычна, плянава і даволі часта, разглядаць заняткі як па зьместу, так і з мэтодычнага боку.

Вось на наш погляд магчымая схэма работы такога сэмінарыя:

а) Заняткі сэмінарыя праводзяцца не пазьней чым за 2-3 дні да пачатку заняткаў у школе па данай тэме, пры чым заняткі сэмінарыя праводзяцца да кожнай новай гутаркі.

б) Не пазьней чым за 4-5 дзён да заняткаў сэмінарыя кожны прапагандыст атрымоўвае мэтодраспрацоўку данай гутаркі. У ёй галоўным чынам зьвяртаецца ўвага на асноўных пытаньнях гутаркі (калі патрэбна, даецца іх растлумачэньне) і на мэтадычных пытаньнях сувязі аднаго вузлавога пункту з другім, на спосабах правядзеньня данай гутаркі, указваецца літаратура па падрыхтоўцы да заняткаў.

в) На грунце гэтай мэтодраспрацоўкі кожны прапагандыст складае свой рабочы плян, г. зн. што кожны прапагандыст, а ня толькі вылучаны дакладчык, рыхтуецца да заняткаў сэмінарыя. Адзін рабочы плян (рабочы плян дакладчыка, калі гэткі вылучаецца) абгаварваецца на занятках сэмінарыя, уносяцца патрэбныя папраўкі і прымаецца як схэма правядзеньне заняткаў.

Апрача гэтага, могуць, зразумела, быць праведзены асобныя лекцыі па найбольш важным разьдзелам праграмы.

Толькі такая пастаноўка работы сэмінарыя забясьпечыць сапраўдную якасьць яго работы, а тым самым значна палепшыць якасьць работы тых школ, якімі кіруюць удзельнікі сэмінарыяў.

Магчыма, што ў сувязі з гэтым прыдзецца паставіць пытаньне аб аслабаненьні рабочага прапагандыста на адзін дзень у тыдзень ад работы, але гэта акупіцца.

Але такая штотыднёвая работа сэмінарыя магчыма толькі ва ўмовах гарадзкіх цэнтраў буйных, прамысловых прадпрыемстваў.

Для тых прапагандыстых, якія раскіданы па вёскам раёну ці па прадпрыемствам сярэдняй вялічыны, на якіх маюцца 1-2 школы, трэба наладзіць сыстэматычную іх падрыхтоўку праз штомесячныя канфэрэнцыі - нарады. Такія-ж канфэрэнцыі-нарады могуць праводзіцца і для платных раённых прапагандыстых у акругах не радзей чым кожныя два месяцы. Гэта работа канфэрэнцый - нарад павінна быць зьвязана з такой-ж папярэдняй падрыхтоўкай, як у сэмінарыях. Для кіраўнікоў вечпартшкол і прадмэтных гурткоў мейсца сэмінарыяў і нарад павінны займаць прадмэтныя камісіі. Да гэтага часу прадмэтныя камісіі адыгрываюць зусім нязначную ролю. Трэба наладзіць сыстэматычную работу гэтых камісій.

Сказаным, вядома, ня вычэрпываюцца ні разнастайнасьць форм, ні мэтадаў падрыхтоўкі прапагандыста.

Трэба, каб таварышы-прапагандысты падзяліліся сваім вопытам, выказалі свае думкі па гэтаму надзвычайнаму важнаму пытаньню.

Агульнымі сіламі мы задачу падрыхтоўкі прапагандыста вырашым.

*Ш. Гольдзін.*

---

## З блок-ноту прапагандыстага.

Якасьць зьяўляецца асноўнай умовай усялякай працы. А між іншым, партыйная асьвета як ні адна другая галіна працы, далёка ад гэтага (мы дрэнна падрыхтоўваем вучобу, выкладаньне адарвана ад практычнага жыцьця і працы, у сур'ёз не ўзяліся за падрыхтоўку кадра рабочых прапагандыстых, слабы кантроль і кіраўніцтва гэтай працай і г. д.).

* * *

Мы ставім сабе задачу, каб галоўныя пытаньні, высунутыя нашай партыяй, былі ўвязаны пры прапрацоўцы праграмных пытаньняў. Гэтым самым партшкола павінна садзейнічаць слухачу прымаць больш актыўны ўдзел у партыйнай, прафэсыянальнай і савецкай працы. У сучасны момант галоўнае заключаецца ў тым, каб з найбольшай паступовасьцю выкрыць сутнасьць правага, апартуністычнага ўхілу і прымірэнцкіх адносін да яго і контр-рэвалюцыйную сутнасьць трацкісцкай апазыцыі, пранізаўшы чырвонай ніцьцю кожную гутарку нашай праграмай разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва.

А вось прыклады, якія паказваюць адарванасьць ад нашага сучаснага жыцьця.

* * *

У аднэй групе распрацоўваецца нацыянальнае пытаньне, друк (беларускі, усесаюзны) піша аб нашумеўшай справе на Шкляной гуце „Октябрь". Здавалася, што пры абгаварэньні нацыянальнага пытаньня патрэбна было разгледзіць гэта, як форму праяўленьня абвостранай клясавай барацьбы пад маскай нацыяналізму, а кіраўнік абмяжоўваўся заўвагай: „гэта мае палітычнае значэньне, але аб гэтым гаманіць ня будзем" (Чаму?).

У гэтай-жа групе па гэтым-жа пытаньні слухачы выказалі такія думкі: „Цяжкасьць у разьвязаньні нацыянальнага пытаньня на Беларусі заключаецца ў тым, што Савецкая

Улада Беларусі ня мае магчымасьці задаволіць запатрабаваньні ўсіх нацыянальнасьцяй". Сыпаліся настойліва рэплікі, што „беларускае мовы няма, хочуць яе прывіць, што сялянства нездаволенае беларускай граматай". Сярод гэтага хору выкрыкаў выказаўся адзін беспартыйны, кажучы: „нельга рабочай клясе кіраваць сялянствам, калі яна ня будзе ўладаць яго мовай".

Кіраўнік замест таго, каб зачапіцца за гэтую думку, высьвятліць, што мова зьяўляецца сродкам, але ня мэтай, растлумачыць на практычных прыкладах сутнасьць формулы аб культуры „нацыянальнай па форме і пралетарскай па зьместу"—не рэагаваў на гэта, нібыццам гэта непатрэбнае, не прадугледжанае яго плянам пытаньне (!!!).

* * *

Бывае ўпрашчэнства, якое мяжуецца з вульгарызацыяй. Сацыяльны пераплёт клясавых сіл не асьвятляецца мэтадам дыялектычнага матэрыялізму. У аднэй групе распрацоўваецца гутарка аб буржуазнай і пралетарскай дэмакратыі. Неабходна было на прыкладах з сучасных фактаў паказаць, што дэмократыя ў буржуазных краінах зьяўляецца шырмай, за якой, калі патрэбна, хаваецца кіруючая роля буржуазнае клясы, што дзяржава зьяўляецца зброяй у руках пануючай клясы, што галоўным зьяўляецца пытаньне ў чыіх руках знаходзяцца сродкі вытворчасьці. Кіраўнік абраў мэтад параўнаньня і атрымалася так: „У нас рабочыя маюць права голасу, а за мяжою—не. Там (за мяжою) не адзываюць дэпутатаў, а мы адзываем (як быццам падкантрольнасьць дэпутатаў і ўдзел мас мае другарадную значнасьць). Там не зьмяшчаюць заметак рабселькораў, а мы зьмяшчаем. У нас рабочыя чытаюць газэты, а за мяжою не (!!!). Ніводзін буйны капіталісты (?) у парлямэнт не ўваходзіць таму, што кіруе праз сваіх інжынэраў і адвакатаў".

Наогул усё проста і яскрава. У нас усё, а там нічога.

Навошта ўскладняць распрацоўку гэтых пытаньняў?

Але-ж ад гэтага слухач рабіў вывады аб складанасьці клясавае барацьбы ў капіталістычных краінах?!

* * *

Пытаньне аб падрыхтоўцы рабочых прапагандыстых зьяўляецца галоўнейшай задачай і абявязковай умовай дзеля падняцьця партасьветы на вышэйшую ступень. Гэтай справай да апошняга часу не займаліся як трэба, абмяжоўваліся гутаркамі і асобнымі добрымі пачынаньнямі (курсы рабочых прапагандыстых), але гэта не падрыхтавалася. Большасьць слухачоў, якія займаліся на курсах, не скарыстаны на прапаган-

дысцкай працы. Да пытаньняў аб вызначэньні і падборы прапагандыстых часта падыходзяць насьпех. Атрымоўваецца цыркуляр і за пару гадзін нараджаецца сьпіс рабочых-прапагандыстых.

Неабходна, каб у сець партасьветы на працягу навучальнага году, вылучаліся-бы таварышы, якія мелі лепшую пасьпяховасьць. Гэтыя кандыдатуры павінны быць узгоднены з партыйнымі ячэйкамі і зацьверджаны Бюро РК КП(б)Б, выкарыстоўваньне вылучаных рабочык прапагандыстых на іншай працы павінна праходзіць выключна па згодзе Бюро РКП(б)Б. Неабходна на справе, а не на словах абслугоўваньне рабочых прапагандыстых з боку АПА Габінэту.

Ва ўмовах Менску, асноўнымі кадрамі прапагандыстых зьяўляюцца камвузаўцы. Перагружанасьць вучобай, адарванасьць ад практычнай працы, адарванасьць ад жыцьця прадпрыемства і сваіх слухачоў адбіваецца на працы школ. Неабходна, каб Праўленьне Камвузу прымацавала прапагандыстых да тых прадпрыемстваў, дзе яны кіруюць школамі, але патрэбна на падрыхтоўку рабочых прапагандыстых зьвярнуць галоўную ўвагу, толькі з дапамогаю іх магчыма будзе палепшыць якасьць партыйнае асьветы.

* * *

Партыйныя ячэйкі не праяўляюць дастатковай ініцыятывы ў працы партыйных школ. Партыйныя ячэйкі не скарыстоўваюць школу для вывучэньня беспартыйнага актыву. Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) паставіў задачай: „вярбаваць у партыю сапраўдна перадавыя элемэнты рабочае клясы, здольныхісьці ў авангардзе рабочых мас па практычнаму прэадаленьню труднасьцяй сацыялістычнага будаўніцтва, па адпору дробна-буржуазным ідэёвым хістаньням, па ўсямернаму падняцьцю давера да партыі сярод усёй масы рабочых і працоўных вёскі“.

А ў нашых партыйных школах займаецца значная частка беспартыйнага рабочага актыву. Партячэйка павінна памятаць, што партшкола пры яе кіраўніцтве можа стаць каналам узросту партыі за лік падрыхтаваных палітычна разьвітых беспартыйных рабочых.

У гэтым годзе арганізаваны групы партшкол непасрэдна на прадпрыемствах, у рэзультаце: на чыгуначным вузьле з 500 сяброў парткалектыву ўсяго працуе 2 групы па 20 чалавек, на Абойнай ф-цы група раскідалася, на Абутковай фабрыцы заняткі зрываюцца і па прычынах і бяздай прычыны, а Сакратар ячэйкі на запытаньні кіраўнікоў адказау: А ці вы атрымліваецепэнсію ад колькасьці заняткаў (!)“. Лепш абставіць справа на шкляной гуце, дзе кіраўнікам зьяўляецца падрыхтаваны член іх ячэйкі, і ў тэкстыльшчыкаў. Партячэйкі

апошніх прадпрыемств заслухалі даклады кіраўнікоў, сачаць за наведваемасьцю; настроі, выяўленыя ў школе, маюць адбітак на абгаварэньні пытаньняў на бюро ячэек і г. д.

Але патрэбна адкрыта прызнацца, што покуль-што гэтае зьяўляецца выключэньнем і лёзунгам дню, трэба паставіць пытаньне аб тым, каб партячэйкі накіраваліся тварам да школы.

В. Левін.

## Заданьні для прапагандыстых.

### Тэма—Першая рэвалюцыя.

Мэта тэмы: Азнаёміць з рэвалюцыяй 1905 году, з яе прычынамі і прычынамі яе паражэньня і высьвятліць погляды бальшавікоў і меншавікоў на гэтую рэвалюцыю.

Плян гутаркі: Глядзі §§ гутаркі.

#### Мэтадычныя ўказаньні.

Пераход да гістарычнай часткі праграмы робіцца наступным чынам: кіраўнік указвае на тое, што наша перамога ў Кастрычніку і ўся наша далейшая барацьба і будаўніцтва пасьля Кастрычніку, нашы адносіны да розных клясаў, у прыватнасьці да сялянства і розных яго груп, за ўвесь гэты час— усё гэта было падрыхтавана гісторыяй нашай партыі на працягу ўсяго яе існаваньня.

*I. Напярэдадні рэвалюцыі.* У гэтым разьдзелу гутаркі галоўная ўвага зьвяртаецца на высьвятленьне супярэчнасьцяй капіталістычнага разьвіцьця ў царскай Расіі на пярэдадні першай рэвалюцыі,—моцнае разьвіцьцё прамысловасьці пры слабым разьвіцьці (у выніку прыгнечанасьці сялянства), унутранага сялянскага рынку, выклікае недавольства буржуазіі самаўладзтвам. З другога боку, разьвіцьцё пралетарскага руху, страх перад ім зараней пакідае буржуазію на бязсільле, на палавінчатасьць, на згоду з царскім самаўладцтвам,— супроць пролетарыяту. На крызіс пачатку XX веку ўказваецца як на момант, які яшчэ больш пагоршыў становішча рабочае клясы. Пры высьвятленьні становішча сялянства ўвага завастраецца на наступным факце: „10½ мільёнаў сялянскіх двароў маюць 75 мільёнаў дзесяцін зямлі, і 30 тысяч абшарнікаў—70 мільёнаў дзесяцін“. Неўраджаі, нацыянальнае прыгнечаньне і руска-японская вайна, прыводзяцца як фактары, абвастрыўшыя недавольства мас і барацьбу з царызмам.

*II. Ацэнка рэвалюцыі 1905 году бальшавікамі.* Сказанае ў мінулым разьдзеле падводзіць нас да правільнай ацэнкі рэвалюцыі. Высьвятляецца тая асаблівасьць буржуазнай рэвалюцыі ў Расіі, што гэта магла быць толькі аграрная сялянская рэволюцыя пад кіраўніцтвам пралетарыяту. Паказваецца роля пралетарыяту, роля сялянства, як асноўныя рухаючыя сілы рэвалюцыі. Адсюль выводзіцца стратэгічны плян Леніна 1905 году і бліжэйшыя задачы (гл. падручнік).

*III. Меншавікі аб рэвалюцыі.* З неразуменьня асаблівасьцяй буржуазнай рэвалюцыі ў Расіі і фактычнай разстаноўкі клясавых сіл у той час, у гэтым разьдзеле выводзіцца няправільная ацэнка меншавікамі ролі буржуазіі ў рэвалюцыі, абвяржэньне імі ролі сялянства як саюзьніка пралетарыяту, абвяржэньне ролі пралетарыяту, як тегемона рэвалюцыі.

У гэтай сувязі трэба высьвятліць погляды трацкізму, як разнавіднасьці меншавізму.

*IV. Дзьве тактыкі ў рэвалюцыі.* У гэтым разьдзеле галоўнымі зьяўляюцца наступныя пытаньні: рэвалюцыйна-дэмакратычная дыктатура пралетарыяту і сялянства, як задача, і ўзброенае паўстаньне, як асноўны мэтад барацьбы, высунутыя бальшавікамі ў рэвалюцыі. Кампроміс з буржуазіяй і імкненьне да мірнай парляменцкай працы ў меншавікоў.

*V. Этапы першай рэвалюцыі.* На фактычным ходзе рэвалюцыі даказваецца правільная ацэнка клясавых сіл і задач пралетарыяту ў гэтай рэволюцыі бальшавікамі; як на галоўныя прычыны паражэньня рэволюці 1905 году трэба ўказаць на недастатковую з'арганізаванасьць і сьвядомасьць пралетарыяту і адсутнасьць належнага кантакту рабочага сялянскага руху.

ЛІТАРАТУРА:


Кержанц'аў і Леонцьеў—Азбука Ленізму.

Ленін—Том VI, выд. Першае—Земская Кампания и план „Искры“ стр. 7—22.

Падение Порт-Артура—стр. 32—38.

Начало революции в России, стр. 55—58.

Две тактики, стр. 69—76.

Пролетариат и крестьянство ст. 104—108.

Революционно-демократическая диктатура пролетариата и крестьянства, стр. 124—131.

У хвосте у монархической буржуазии или во главе революционного пролетариата и крестьянства.

Максимум: Две тактики соц.-демократии в демократической революции,—стр. 283—355.

**Тэма: Партыя ў эпоху рэакцыі і імпэрыялістычнай вайны.**

Мэта тэмы: Азнаёміць з бальшавіцкай тактыкай у час рэакцыі, з барацьбой партыі супроць ухілаў, высьвятліць сутнасьць поглядаў бальшавікоў, меншавікоў і Троцкага ў часе імпэрыялістычнай вайны. Плян тэмы: гл. §§ гутаркі.

**Мэтадычныя указаньні:**

*I. Рэакцыя.* У гэтым разьдзеле гутаркі ўвага зьвяртаецца перш-на-перш на высьвятленьне розьніцы паміж тактыкай наступленьня (узброенае паўстаньне, бойкот думы) у пэрыяд рэвалюцыйнага ўздыму і тактыкай адступленьня ў часе рэакцыі (скарыстоўваньне думы і г. д.). Тут павінна быць падкрэсьлена, што задачы партыі заставаліся тымі-ж, а зьмяніліся толькі формы барацьбы, замест непасрэднай рэвалюцыйнай сітуацыі—падрыхтоўка да новага рэвалюцыйнага ўздыму. У сувязі з гэтай тактыкай партыі высьвятляецца сутнасьць ліквідатарства, з аднаго боку, адзавізму і ультыматызму, з другога боку. Трэба, каб слухачы ўявілі сабе з гэтага разьдзелу, што ліквідатарства, якое імкнулася да фактычнай ліквідацыі нелегальнай партыі, зазначала разбраеньне пралетарыяту ў клясавай барацьбе, здача позыцый буржуазіі, прыстасаваньне да Сталыпінскага рэжыму, адбіла, нарэшце, хвасьцізм меншавікоў наогул. Ухілы сярод бальшавікоў (адзавісты, ультыматысты) пад левымі фразамі прыкрылі веру ў магчымасьць дабіцца праз парляманты абароны інтарэсаў рабочых, не разумеючы тактыкі бальшавікоў скарыстаньня думы: яны з другога боку адбілі таксама парлямэнцкі крэтынізм; слухачы, павінны усвоіць, што абодзьва шкодныя для рабочай клясы.

*II. Пэрыяд уздыму.* Слухачы азнаёмліваюцца з фактамі новага ўздыму рэволюцыйнага руху, асабліва са значэньнем Ленскага растрэлу, як штуршком да новага рэвалюцыйнага ўздыму, з разьвіцьцём бальшавіцкага друку і ўзростам бальшавіцкага ўплыву сярод рабочае клясы. Тут апраўдываецца прадсказаньне бальшавікоў аб набліжэньні новай рэвалюцыйнай хвалі.

*III. У годы вайны.* У аднэй з першых гутарак (імпэрыялізм—апошняя ступень капіталістычнага ладу) была высьвятлена сутнасьць імпэрыялізму. У гэтай частцы данай гутаркі напамінаецца бальшавіцкая ацэнка імпэрыялізму і характарыстыка вайны, як імпэрыялістычнай. Выходзячы з гэтай ацэнкі вайны, растлумачваецца лёзунг бальшавікоў аб „ператварэньні імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую“; даказваецца, што толькі соцыялістычная рэволюцыя—адзіны выхад з імпэрыялістычных войн. У сувязі з гэтым высьвятляецца значэньне лёзунгу „поражение своего правительства в империалистической войне“ і даказваюцца словы

Леніна: „магчыма перамога сацыялізму спачатку ў некалькіх або аднэй, паасобна ўзятай, капіталістычнай краіне. Потым высьвятляюцца карэньні і сутнасьць абаронства і цэнтрызму, адкрытае здрадніцтва абаронцаў і прыкрытае—цэнтрыстых, як у міжнародным маштабе, так і ў Расіі (меншавікі). Асабліва тут трэба застанавіцца на пазыцыі Троцкага, які фактычна таксама займаў цэнтрыскую лінію: ён выказаўся супроць лёзунгу грамадзянскай вайны, супроць лёзунгу паражэньня, гэтым паказваючы фактычную адмову ад рэвалюцыйнай барацьбы ў часе вайны.

ЛІТАРАТУРА:

Кержанцаў і Леонцьеў. Азбука ленінізму. Разьдзел XII, „Партыя ў эпоху рэакцыі і імпэрыялістычнай вайны".

Ленін. Об оценке текущего момента, т. XI, ч. I, стр. 154—165.

„ Ликвидация ликвидаторства, т. XI, ч. I, стр. 272—279.

„ О дипломатии Троцкого и об одной платформе партийцев, т. XI, ч. II, стр. 446—450.

Ленин. Ленская бойня и 3-я июньская монархия, т. XII, ч. I, стр. 90—93.

„ О поражении своего правительства в империалистической войне, т. XIII, стр. 78—83.

Максімум.

Ленін.—О фракции сторонников отзовизма и богостроительства, т. XI, ч. I, стр. 300—330.

Ленин. Крах II Интернационала, т. XIII, стр. 133—182.

## Тэма—1917 г. (дзьве рэволюцыі).

Мэта тэмы—высьвятліць прычыны лютаўскай і кастрычнікаўскай рэволюцыі, погляды бальшавікоў і меншавікоў на рэволюцыю 1917 году, азнаёміць з падрыхтоўкай і ходам кастрычнікаўскай рэволюцыі і асноўнымі задачамі, якія вырашыла партыя пасьля яе.

Плян тэмы—Гл. Гутарку.

Мэтадычныя указаньні.—Гэта гутарка ўвязваецца з мінулай праз указаньне на тое, што імпэрыялістычная вайна давяла край да такога становішча, з якога іншага выйсьця, акрамя рэволюцыі, ня было. Палітычны забастовачны рух, аб якім гаварылася ў мінулай гутарцы ў сваім далейшым разьвіцьці, перайшоў ў рэволюцыю. Голад, холад, крывавыя ахвяры на вайне за чуждыя працоўным масам інтарэсы, і ўцямленьне, дзякуючы папярэдняму вопыту (1905 г. і інш.), што віноўнікам гэтага зьяўляецца царскі ўрад,—вось на гэтыя асноўныя прычыны лютаўскай рэволюцыі павінна быць указана.

## 1. На другі дзень пасьля зьвяржэньня манархіі.

У гэтым разьдзелу гутаркі галоўнымі зьяўляюцца наступныя пітаньні: на падзеях рэволюцыі 1917 г., на задачах, якія сабе ставілі ў гэтай рэволюцыі асобныя клясы, на расстаноўцы клясавых сіл у рэволюцыі, даказваецца сьцьвярджэньне Ленінскага вучэньня аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі у пролетарска-сацыялістычную. Тут трэба застанавіцца на тых асаблівасьцях, якія мела рэволюцыйна-дэмократычная дыктатура пролетарыяту і сялянства (двоеўладзтва—саветы і Часовы Ўрад) у лютаўскай рэволюцыі. Трэба паказаць, што, закончыўшы першы этап—буржуазна-дэмократычны—у лютым, неабходна было зараз-жа перайсьці да другога этапу—сацыялістычнага, савершыўшы сацыялістычную рэволюцыю, якая адна толькі і зможа вырашыць і тыя задачы, якія працоўныя масы сабе ставілі у лютаўскай рэволюцыі наогул—пазбаўленьня ад імпэрыялістычнай вайны,—зямлю, хлеб і свабоду. Высьвятляючы задачы бальшавікоў па заваяваньню мас для завяршэньня сацыялістычнай рэволюцыі, трэба тут асобна застанавіцца на памылках Каменева ў адносінах да лютаўскае рэволюцыі.

## 2. Разбурэньне сацыял-абарончаства.

У гэтым разьдзелу трэба паказаць, як меншавікі і эсэры, сацыял-здрадніцкія партыі сваім падтрыманьнем часовага ўраду, сваім падтрыманьнем яго імпэрыялістычнай палітыкі, сваім удзелам у Кааліцыйным імпэрыялістычным урадзе ўсё больш і больш гублялі прэстыж у масах. Ім ня толькі не ўдавалася больш затрымліваць рабочы і сялянскі рэволюцыйны рух, але кожны іх крок па шляху здраду інтарэсаў працоўных мас (падтрыманьне наступленьня і інш.) выклікала ўсё большае і большае абурэньне. На асноўных момантах разьвіцьця рэволюцыі ад лютага да кастрычніка (чэрвеньскае наступленьне, ліпеньскае дэманстрацыя, Карнілаўскае паўстаньне, адносіны сацыял-здраднікаў да патрэб рабочых, сялян, арміі) трэба паказаць нарастаньне Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Асобна неабходна застанавіцца на ролі VI зьезду партыі ў падрыхтоўцы Кастрычнікавай Рэволюцыі,

## 3. Кастрычнікаўская рэвалюцыя.

У гэтым разьдзелу галоўнымі зьяўляюцца наступныя пытаньні: растлумачэньне поглядаў Леніна на саветы ў той час, як на зародыш пралетарскай дзяржавы, іх асаблівасьцяй; розьніца паміж лёзунгамі „Уся ўлада савтеам“ *да* і *пасьля* ліпеньскіх падзей; умовы, якія меліся для пабеды рэволюцыі (прыводзіць словы Леніна).

У сувязі з высьвятленьнем гэтых пытаньняў, трэба падкрэсьліць памылкі Зіноўева і Каменева, якія, разумеючы неабходнасьць і сваечасовасьць паўстаньня, хістнуліся ў самую рашучую хвіліну, парушыўшы партдысцыпліну. Нарэшце,— прычыны пабеды рэволюцыі.

### 4. Партыя пасьля Кастрычнікавай Рэволюцыі.

У гэтым разьдзелу можа быць зьліта 4 і 5 параграфы гутаркі. Тут перш-на-перш трэба напомніць сказанае вышэй аб тым, што пролетарская рэволюцыя вырашае мімаходам задачы буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі. Да гэтакіх задач належыць канчатковае зьніштажэньне рэштkaў самаўладцтва, а галоўнае—дэкрэт аб зямлі. Увесь гэты разьдзел разьбіваецца на тры часткі: а) да стварэньня Камбедаў, б) ваенны камунізм; в) НЭП. Усё гэта зьяўляецца паўтарэньнем таго, што вучні ўжо ведаюць аб сутнасьці кожнага з гэтых этапаў з мінулых гутарак („Асновы гаспадарчай політыкі партыі", праз НЭП да сацыялізму і інш.). Тут трэба толькі коратка застанавіцца на задачах партыі на кожным з гэтых этапаў, падкрэсьліваючы ухілы ад ленінскае лініі партыі на кожным з гэтых этапаў і на барацьбе партыі з гэтымі ухіламі.

ЛІТАРАТУРА:

Кержанцаў і Ляонцьеў—1917 г. (Дзьве революцыі) ст. 226—248.
Ленін — О задачах пролетариата в данной революции, тезисы, т. XIV.
Ленін—„О двоевластии", „Уроки кризиса", т. XIV.
„ Восемнадцатое июля, т. XIV.
„ Кризис надвигается, разруха растет, т. XIV.
„ Задачи пролетариата в нашей революции, т. XIV.
„ Удержат ли большевики государственную власть, т. XIV.
„ Декрет о мире, т. XV.
„ Декрет о земле, т. XV.
„ Серьезный урок и серьезная ответственность, т. XV.
Астатні матэрыял той-жа, што ў адпаведных гутарках па эканамічнай політыкі партыі.

---

## Заданьні для гурткоў самаадукацыі і індывідуалаў.

З гэтага нумару мы пачынаем друкаваць заданьні па самаадукацыі па праграме Гомельскай Завочнай Саўпартшколы. Кансультацыю і рэцэнзіраваньне для навучаючыхся па гэтай праграме трэба арганізаваць на мясцох пры апагабінэтах вечпартшколах і інш.

Аб прыстасаванасьці заданьняў і ходзе вучобы просьба пісаць у часопісі „У дапамогу партвучобе".

---

# Гісторыя клясавэй барацьбы.

## ЗАДАНЬНЕ 1.

### Тэма: Прамысловы пераварот у Англіі.

**Папярэднія заўвагі да тэмы:**

1. Найноўшая гісторыя Заходняй Эўропы ахапіла эпоху прамысловага капіталізму, які у канцы 19 веку пераходзіць у апошнюю стадыю, імпэрыялістычную.

2. Прамысловы капіталізм упяршыню зарадзіўся ў Англіі, як вынік прамысловага перавароту канца 18 і пачатку 19 веку. Гэта быў глыбока грамадзкі пераварот ад ручной вытворчасьці да машыннай, ад саматужніка, майстэрні рамесьніка і мануфактуры да гіганцкіх фабрык і заводаў.

3. Гэта быў пераход ад „добрай старой Англіі", дробных сялян, рамесьнікаў і саматужнікаў, майстраў і падмайстраў, абшарнікаў і купцоў да новай Англіі, Англіі буржуазіі і пралетарыяту. Пераход ад гандлёвага капіталу да прамысловага.

*Увага.* Каб атрымаць поўнае ўяўленьне аб прадмеце гісторыі, як такавым, раем прачытаць з новай гісторыі Заходняй Эўропы Лукіна выдан. 1923 г. „Введение", стар. 5—11.

4. Мэта заданьня на прыкладзе прамысловага перавароту у Англіі паказаць, як узьнік сучасны капіталізм з асноўнымі клясамі капіталістычнай грамады: буржуазіяй і пралетарыятам.

**Плян заданьня.**

1. Сацыяльна-эканамічны ўклад Англіі напярэдадні прамысловага перавароту.
   а) Стан сельскай гаспадаркі.
   б) Прамысловасьці.
   в) Гандлю і шляхоў зносін.
   г) Клясы і дзяржаўны лад.

2. Характар першапачатковага накапленьня капіталу або прадпасылкі прамысловага перавароту.
   а) Накапленьне капіталу, як рэзультату гандлю і каляніяльнага адрабаваньня. (Выявіць гвалтоўны характар гэтай зьявы).
   б) Аграрны пераварот, яго вынікі, пролетарызацыя вёскі і пашырэньне ўнутранога рынку.
   в) Пашырэньне гандлю і прамысловасьці, як вынік аграрнага перавароту.

3. Тэхнічная рэвалюцыя.
   а) Вынаходкі у тэкстыльнай прамысловасьці.

б) Тэхнічныя удасканаленьні ў мэталічнай прамысловасьці, як вынік задавальненьня запатрэбаваньняў тэкстыльнай прамысловасьці.

в) Адносіны рабочай клясы да вынаходзтва.

г) Рост шляхоў зносін.

д) Гістарычнае значэньне машыны.

4. Сацыяльна-эканамічны лад Англіі пасьля прамысловага перавароту.

а) Разьвіцьцё народнае гаспадаркі пад уплывам прамысловага перавароту.

б) Клясы Англіі пасьля перавароту і іх узаемаадносіны.

в) Палітычная будова Англіі к канцу 18 века.

ЛІТАРАТУРА:

Бочаров Ионисоний и др. „Учебник истории классовой борьбы", стр. 7—14. (ад „Переворот в Англии" да „Старый порядок во Франции) або

Моносов. Выданьне 5-е, стр. 3—21 да разьдз. „Промышленный переворот во Франции и Германии.

Матар'ял максімум.

Маркс. „Капитал т. I глава 24.

Фридлянд и Слуцкий. Выд. 3, стр. 26-27, „дакумэнт № 2-А (Европа и колонии, стр. 31—33, дакум. № 5 и 6 („Овцы поели людей" и „Парламентский грабеж").

Тэрмін праработкі 16 гадзін.

## ЗАДАНЬНЕ 2.

### Тэма: Вялікая француская рэвалюцыя.

Мэта заданьня: 1. Выявіць на падставе сацыяльна-эканамічнага палажэньня і сацыяльна-палітычных варункаў жыцьця Францыі канца 18 веку агульныя і непасрэдныя прычыны рэвалюцыі.

2. Выявіць сацыяльны склад і буржуазна-згодніцкі характар дзейнасьці устаноўчага і законадаўчага сходаў.

3. Высьветліць характар створанай буйнаю буржуазіяю палітычнае дзяржавы, яе асноўныя супярэчнасьці, якія непасрэдна прыводзілі да пераходу к дэмократычнаму ладу.

4. Выявіць унутраныя і надворныя контрэволюцыйныя сілы эпохі устаноўчага і законадаўчага сходаў.

5. Адзначыць ролю рэвалюцыйных народных мас у падштурхоўваньні буржуазіі да зьвяржэньня каралеўскай улады і адкрытыя выступленьні буржуазіі супроць рэволюцыі ужо на першым яе этапе.

**Плян заданьня.**

1. Францыя напярэдадні рэволюцыі, сацыяльна-эканамічныя супярэчнасьці.

2. Палітычны лад.

3. Ідэалёгія асноўных клясаў (станаў).

ЛІТАРАТУРА:

1. Падручнік гісторыі клясавай барацьбы Бочаров З., Ионнсоний и др., стар. 14—22 ад слоў „Старый порядок во „Францыі" да „крепостническая Россия".

2. Моносов, выдан., 5 стар. 24—35 ад пачатку артыкула да „фінансавая катастрофа".

3. Фрыдлянд і Слуцкі. Хрэстаматыя выд. 1926 г., гл. 2, стар. 64—71. Дакумант № 2, 3, 4, 5—А, стар. 78, 83, дакумант № 8—В.

## 2. Арыстакрытычная буржуазія ў улады.

1. Агульныя непасрэдныя прычыны рэвалюцыі.
2. Барацьба ў генеральных штатах (станоў).
3. Ад генеральных штатаў да ўстаноўчага сходу.
4. Рэволюцыйная барацьба народных мас (14/VII і 5/X) і адносіны да яе буржуазіі і рэакцыі.
5. Арганізацыя буйнай буржуазіі ў пануючую клясу і стварэньне новай буржуазнай дзяржавы (дэклярацыя праў чалавека і грамадзяніна і канстытуцыя 1791 г.).

ЛІТАРАТУРА:

1. Бочаров и Ионисоний, стар. 39—48 ад слоў: „Неизбежность революции" да „рабочий вопрос в мероприятиях буржуазии" або

Моносов. Выдан. 5, стар. 35—43 ад „Финансовая катастрофа" да „ликвидацыя остатков феодализма".

Фридлянд и Слуцкий. Выдан. 26 г., гл. 2, стар. 61—62. „Ідеология подымающейся буржуазии". Стар. 107—110, дакум. № 1—2, стар. 123—124, дакум. № 19.

## 3. Социяльна-эканамічная дзейнасьць устаноўчага сходу.

1. Ліквідацыя фэодальных парадкаў.
2. Канфіскацыя зямель духавенства і яе значэньне.
3. Сялянская палітыка сходу.
4. Палітыка па рабочым пытаньні (Закон Шапелье).
5. Раскол унутры з стана (Ліпенскія дні 1791 г.).

ЛІТАРАТУРА:

1. Бочаров и Ионисоний, стар. 48—52 ад слоў „Рабочий вопрос" да „Законодательные собрания" або

Моносов, выд. 5, стар. 43—47 ад слоў „Ликвидация остатков феодолизма до „Законодательные собрания и партия жирондистов".

Фридлянд и Слуцкий. Выд. 1926 г., стар. 111—113, дакумант 3, 4, 5, стар. 121, 123, дакум. № 9.

## 4. Законадаўчы сход і яго дзейнасьць.

1. Яго склад.
2. Незадавальненьне народных мас.
3. Знадворная контррэвалюцыя і пытаньні аб вайне.
4. Унутраная контррэвалюцыя.
5. Нарастаньне рэвалюцыйнай вайны (дэманстрац. 20 чэрвеня 1792 г.).
6. Рэвалюцыя 11 жніўня 1792 г.

ЛІТАРАТУРА:

Бачаров и Ионисоний, стар. 53 и 58 ад „Законодательные собрания" да „Рэволюционная (Парижская Комунна)" або

Моносов, Выданьне, 5 стар. 47, 50 ад „Законодательныя собрания" да „Нац. Конвент".

Фридлянд и Слуцкий. Выдан. 1926 г. стар. 128—130, дакум. № 13, стар. 131—132, дакумант № 14, стар. 140—141, дакум. № 20.

Тэрмін 12 гадзін.

## ЗАДАНЬНЕ 3.

### Тэма: Дыктатура дробнае буржуазіі і рэакцыя пасьля яе заняпаду.

Мэта заданьня: 1. Усьвядоміць далейшае разьвіцьцё ініцыятывы і дзейнасьці рэвалюцыйных мас, якія пасьля рэволюцыі 10 жніўня зрабілі пераход ад буржуазнай манархіі да дэмакратычнай рэспублікі.

2. Выявіць адносіны між клясамі і партыямі ў час канвэнту і ўмовы, пры каторых меншасьць канвэнта бярэ ўладу ў свае рукі.

3. Усьвядоміць, што толькі дыктатура дробнай буржуазіі магла выканаць усе задачы рэволюцыі і што здейсьнеўшы гэтую задачу павінна яна нарэшце быць перасіленай пры немажлівасьці сацыяльнай рэволюцыі.

4. Выявіць характар Вялікай Францускай Рэвалюцыі, як тып клясычнай буржуазнай рэвалюцыі.

5. Гістарычнае месца Вялікай Францускай Рэвалюцыі у гісторыі новага часу.

**Плян заданьня:**

**1. Барацьба якобінцаў і жырандыстых у Канвэнце (да рэвал. 31 траўня—2/V 1793 г.).**

1. Пытаньне аб Камуне Парыжу.
2. Пытаньне аб каралі.
3. Харчавое пытаньне.
4. Пытаньне аб вайне.

ЛІТАРАТУРА:

1. Бочаров и Ионисоний, „Учебник по истории классовой борьбы" стр. 57—68, ад слоў „Революция 10/VIII—1792 г." да „Революцыя 31/V і 2/VII—1793 г.

2. Калі няма Бочарова—Іонісонія, дык можна карыстацца Моносовым. „Историв революционного движения на западе" выд. 1927 г., стр. 50 - 54 ад слоў „нацианальный конвент, партии в нем, да „Рэволюцый 31/V и 2/IV.

## 2. Перамога якобінцаў і рэвалюцыйная дыктатура 2/IV—1793 г.

1. Грамадзянская вайна.
2. Канстытуцыя 1793 г.
3. Арганізацыя Рэвалюцыйнага ураду.
4. Роля якобінскага клюбу.
5. Чырвоны тэрор.
6. Барацьба з надворнай контррэволюцыяй.

ЛІТАРАТУРА:

1. Бочаров и Ионисоний, стар. 68—72 ад слоў „Революция 31/V—2/VI—1793 г. да канца 72 старонкі або

Моносов, выдан. 1927 г., стар. 54—57 ад слоў „Революцыя 31/V—2/VI—да „Социально-экономические мероприятия".

3. Фридлянд и Слуцкі. Хрэстаматыя, выд. 26 г., гл. 4, дакум. № 15, 16, стар. 175—179. № 22 А, Б, В, Г, стар. 184—186 або выданьня 27 г. дакумант № 15, 16, стар. 181—185, дакумант № 21, стар. 189—191

## 3. Сацыяльна-эканамічныя мерапрыемствы канвэнту.

1. Абмежаваньне правоў спадчыннасьці і закон аб прагрэсыўным падатку.
2. Закон аб максімуме на усе прадукты (такса).
3. Ліквідацыя фэўдальных парадкаў і зварот вабчынных зямель сялянам.
4. Такса на працу.
5. Распрадажа — нацыяналізаваных зямель шляхецтва і духавенства.

ЛІТАРАТУРА:

1. Бочаров и Ионисоний, стар. 73—77 ад слоў „Крестьянская рэформа" да канца 77 старонкі або

2. Моносов, выд. 27 г. стар. 57—60 ад слоў „социально-экономические мероприятия" да „Борьба внутри Якобинства".

3. Фриндлянд и Слуцкі. Хрэстоматыя, выд. 1926 г., дакумант № 24, стар. 188—189, дакумант № 28—стар. 193—194, або выдан. 4 1927 г., дакумант № 23, стар. 193, дакумант № 27, стар. 198—191.

## 4. Нарастаньне супярэчнасьцяў і барацьба групіровак сярод якобінцаў.

1. Нездаволенасьць гарадзкой і вясковай беднаты.
2. Сутнасьць разыходжаньняў паміж дантоністымі і робесьп'ерыстымі і гэбэртыстымі.
3. Заняпад якобінскай дыктатуры 9 тэрмідора 1794 г., 27 ліпеня 1794 г.
4. Значэньне якобінскай дыктатуры.

ЛІТАРАТУРА:

Бочаров и Ионисоний, стар. 78—82 ад слоў „Борьба среди якобинцев" да „Термидорская реакция" або

2. Моносов, выдан. 27 г., стар. 60—62 ад слоў „Борьба внутри якобинства" да „реакция после 9 термидора".

3. Фридлянд и Слуцкий. Хрэстоматыя, выдан. 26 г., дакум. № 36, стар. 108—110, дакумант № 31, стар. 202—203, дакум: 32, стар. 203—204, дакум. № 37, стар. 210—212, або выданьня 1927 г., дакум. № 35, стар. 215—217, дакум. № 3 Б, стар. 208—209, дакумант № 31, стар. 209—210, дакум. № 36, стар. 217—219.

### 5. Рэакцыя пасьля 9 тэрмідора і паўстаньне Бабэфа.

1. Канстытуцыя 1795 г.
2. Дырэкторыя.
3. Клясы ў эпоху дырэкторыі.
4. Змова Бабэфа, яго праграма і няўдача.

ЛІТАРАТУРА:

1. Бочаров и Ионисоний и др., стар. 82—92 ад слоў: „Тэрмидорианская реакция" да „Наполеоновские войны".

2. Або Моносов, выд. 27 г., стар. 62—65 ад слоў: „Реакция после 9 термидора" да канца артыкулу.

3. Фридлян и Слуцкий. Хрыст., выд. 1926 г., стар. 210—213, дакуманты № 37—38.

КОНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАНЬНІ:

1. Чаму буйная буржуазія ня зьдзейсьніла задач бурж. рэвалюцыі?

2. Якія былі сацыяльна-палітычныя ідэі Робесьп'ера падчас канвэнту?

3. Чым раслумачыць, што дробная буржуазія вымушана была ўжываць тэрор?

4. Погляды Дантона, Марата і Робесьп'ера на прыватную маёмасьць і мэты рэволюцыі.

5. Чаму далейшае разьвіцьцё руху мас на шляху сацыяльнае рэволюцыі было-бы немагчыма?

6. Як уплывала на далейшы ход францускай гісторыі вырашэньне сялянскага пытаньня.

7. Сацыяльна-гістарычны сэнс 9 тэрмідору і чаму ён быў няўхільным у вялікай францускай рэволюцыі.

---

Тэрмін праработкі 16 гадз. 11 дзён.

## Палітэканомія.

### ЗАДАНЬНЕ 1.

**Тэма: Неарганізаванасьць таварнай гаспадаркі і закон вартасьці.**

Мэта наступнага заданьня выявіць:

1. Як у таварнай грамадзе, ня гледзячы на яе неарганізаванасьць, на адсутнасьць плянавасьці, усё-ж такі устанаў-

ляецца некаторая адпаведнасьць паміж рознымі галінамі грамадзкай вытворчасьці, дае больш ці менш тыя тавары у той колькасьці, якія і колькі неабходна.

2. Які той мэханізм, каторы ўстанаўляе гэтую адпаведнасьць.

**Плян заданьня.**

1. Разьмеркаваньне працы як асновы таварнай гаспадаркі.

2. Абмен і яго роля.

3. Тавар і прадукт.

4. Дзьве галоўныя ўласьцівасьці тавару:

а) спажыўная вартасьць;

б) вартасьць. Сутнасьць вартасьці.

5. Дваісты характар працы (канкрэтная і абстрактная праца).

6. Грамадзкая неабходная праца.

7. Простая і складная праца.

8. Як уплывае прадукцыйнасьць працы на вялічыню вартасьці.

9. Адхіленьне цэн ад вартасьці.

10. Закон вартасьці як рэгулятар процэсу пропорцыянальнага разьмеркаваньня вытворчых сіл між асобнымі галінамі вытворчасьці ў таварнай гаспадарцы.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАНЬНІ.

1. Пры якіх умовах прадукт ператвараецца ў тавар.

2. Ці існуюць як асобныя віды канкрэтная і абстрактная праца.

3. Якая праца стварае вартасьць і якая стварае спажывецкую вартасьць.

4. Што такое грамадзка-неабходная праца.

5. Ці можа грамадзка-неабходная праца супадаць з працоўнай затратай на адсталых прадпрыемствах або з працоўнай затратай на перадавых.

6. Чаму складаная праца стварае большую вартасьць, чымся простая.

7. Ці будзе вартасьць у камуністычнай грамадзе.

8. Як закон вартасьці разьмяркоўвае вытворчыя сілы паміж рознымі галінамі вытворчасьці.

МАТАР'ЯЛ ДЛЯ ПРАРАБОТКІ:

А. Леонцьеў, гл. 2, стар. 14—40.

Б. Міхалеўскі. Паліт. эканом., выд. 1928 г., глава 2—3 стар., 21—42:

## ЗАДАНЬНЕ 2.

### **Тэма: Грошы і грашовы зварот.**

Мэта заданьня: Выявіць:

1. Як з разьвіцьцём абмену зьмяняюцца формы вартасьці і зьяўляюцца грошы.
2. Грашовыя функцыі і віды грошай.
3. Аснаўныя законы грашовага звароту.

**Плян заданьня.**

1. Разьвіцьцё форм вартасьці:
   а) простая форма вартасьці;
   б) разьвінутая форма вартасьці;
   в) усеагульная форма вартасьці.
2. Неабходнасьць і сацыяльная сутнасьць грошай.
3. Чаму золата і серабро зрабіліся грашыма.
4. Функцыя грошай.
   а) грошы як мерка вартасьці;
   б) грошы як сродак звароту;
   в) грошы як сродак плацежа;
   ґ) грошы як сродак накапленьня.
5. Віды грошай:
   а) мэталічныя;
   б) папяровыя;
   в) крэдытныя.
6. Адрозьніваньне папяровых грошай ад крэдытных.
7. Фактары, якія вызначаюць колькасьць грошай, неабходную для таварнага звароту.
8. Папяровыя грошы у звароце.
9. Эмісія (выпуск і абескаштоўваньне папяровых грошай).
10. Пакупная здольнасьць папяровых грошай, мэтоды вымераў пакупной здольнасьці грошай—індэксы.
11. Уплыў абескаштоўных папяровых грошай на палажэньне гаспадаркі краіны, на палажэньне розных клясаў насельніцтва.
12. Грашовы зварот у Савецкім Саюзе.
13. Умовы захаваньня ўстойлівасьці нашай валюты.

ЛІТАРАТУРА:

Леонцьеў. Нач. курс політ. эканоміі, выд. 28 г., стр. 41—65.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАНЬНІ:

1. Чым агульная форма абмену адрозьніваецца ад разьвінутай.
2. Чаму разьвітая таварная гаспадарка ня можа абыйсьціся бяз грошай.

3. Апішыце ўсе функцыі, якія выконваюць грошы.

4. Аснаўная розьніца папяровых грошай ад крэдытных і розьніца чэрвонцаў ад казначэйскіх білетаў.

5. Функцыі папяровых грошай і якія функцыі ня могуць яны выконваць.

6. Значэньне вольнай і закрытай чэканкі манет.

7. Разьвяжыце пісьмовыя задачы на стар. 65 у Леонцьева.

Тэрмін 8 гадзін.

## ЗАДАНЬНЕ 3.

### Тэма: Вытворчасьць дадатковай вартасьці.

Мэта заданьня:

1. Давесьці, што капіталістычны спосаб вытворчасьці грунтуецца на вытворчасьці дадатковай вартасьці.

2. Выявіць сутнасьць і асаблівасьці капіталістычнай эксплёатацыі.

3. Спосабы павялічэньня дадатковай вартасьці.

4. Давесьці, што на дзяржаўных прадпрыемствах СССР мы маем новы тып вытворчых адносін—сацыялістычныя вытворчыя адносіны.

**Плян заданьня.**

### I. Дадатковая вартасьць.

1. Дзьве аснаўных прадпасылкі ўзьнікненьня капіталістычнай вытворчасьці.
2. Першапачатковае накапленьне капіталу.
3. Рабочая сіла як тавар.
4. Чым азначаецца вартасьць рабочае сілы.
5. Праца неабходная і дадатковая.
6. Неабходны і дадатковы прадукт.
7. Паняцьце дадатковай вартасьці.
8. Капіталістычная вытворчасьць і яе элемэнты.
9. Паняцьце капітала.
10. Кругазварот капіталу.
11. Дзяленьне капіталу:
    а) асноўны і зваротны капітал;
    б) сталы і зьменны капітал.
12. Норма дадатковай вартасьці.

ЛІТАРАТУРА:

Леонцьеў. „Начальный курс Политэкономии, изд. 1928 г., стр. 66—84.

### II. Спосабы павялічэньня дадатковай вартасьці.

1. Абсалютная і адносная дадатковая вартасьць.
2. Барацьба за рабочы дзень.
3. Вытворчасьць адносна дадатковай вартасьці і разьвіцьця тэхнікі. Капіталістычная рацыяналізацыя.

4. Тэндэнцыя разьвіцьця капіталістычнай тэхнікі.

5. Умовы, якія тармазяць разьвіцьцё тэхнікі пры капіталізьме.

6. Дзяржаўныя прадпрыемствы СССР, як прадпрыемствы пасьлядоўна сацыялістычнага тыпу.

7. Адсутнасьць эксплёатацыі ў нашай Дзяржаўнай прамысловасьці.

ЛІТАРАТУРА:

Леонцьеў выд. 28 г. Нач. паліт. экан., ст. 84—102.

---

# За калектывізацыю сельскае гаспадаркі, за ўздым ураджайнасьці.

## Усім АПА, Вясковым Аддзелам і жанаддзелам АК КП(б)Б.

„Максімальнае павялічэньне сельска-гаспадарчай вытворчасьці, уздым ураджайнасьці, энэргічнае ажыцьцяўленьне плянаў калектывізацыі і вытворчага коопэраваньня, індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі і ўсебаковае садзейнічаньне ўздыму індывідуальных бедняцка-серадняцкіх гаспадарак“ (гл. тэзісы па пяцілетке да XII зьезду КП(б)Б) магчыма толькі пры разгортываньні аграпрапаганды і прапаганды калектывізацыі сярод самых шырокіх мас працоўнага сялянства.

Агронамізацыя вясковага партыйнага, комсамольскага, савецкага актыву, актыву грамадзкіх арганізацыяў (Асоавіяхіму, шэфтаварыстваў), калгасаў, саўгасаў, настаўніцтва— важнейшая чарговая задача. Улічваючы эканамічнае значэньне і ролю працоўнай жанчыны на вёсцы, яе пераважны ўдзел у цэлым шэрагу галін у сельска-гаспадарчай вытворчасьці (з жывёлагадоўля, агародніцтва, птушкаводзтва, ільнаводзтва), трэба асаблівую ўвагу ўдзеліць распаўсюджываньню агранамічных ведаў, практычных ведаў у каляктывізацыі сярод працоўнай жаночай масы на вёсцы, у першую чаргу сярод жаночага актыву (дэлягаткі, члены сельсаветаў, коопэратыйныя работніцы, камітэтаў узаемадапамогі і інш.).

Рассаднікам агранамічных ведаў павінны стаць хата чытальня, піанэратрад, дэлегацкі сход, школа, сельскія гаспадарчыя гурткі, калхозы, саўгасы.

На бліжайшы час увага АК, РК і ячэяк павінна быць зьвернута на стварэньне наступных форм агропропаганды і пропаганды калектывізацыі і на скарыстаўваньне існуючых установ (сеці партыйнай, комсамольскай асьветы, дэлегацкіх сходаў, сельска-гаспадарчых гурткоў, школ, палітасьвет устаноў і інш.).

*Месячныя раёныя і міжраён映ныя курсы вясковага актыву.* У 41 пункце разьдзеліўшы іх на наступныя катэгорыі: 22 курсы для агранамічных ўпаўнаважаных пасёлкаў і вёсак, 15 курсаў для аграўпаўнаважаных (кіраўнікоў калгасаў), 4 курсы для вясковага актыву КСМ. На кожных курсах павінна быць

40 курсантаў. Падрабязныя праграмы, тлумачальныя запіскі, каштарыс і мейсца курсаў будуць накіраваны па лініі Наркамзема і Акрземаадзелу.

*Вытворчыя канфярэнцыі нарады.* Гэтыя канфярэнцыі нарады склікаюцца ў раёнах і разьлічаны на вясковы нізавы партыйны, камсамольскі і савецкі актыў, на гэтыя канфярэнцыі прыцягваюцца сэкратары парт. камсамольскіх ячэяк, ячэйковыя жэнарганізатары, старшыні сельсаветаў, сябры с. г. камісіі сельсаветаў, кіраўнікі дэлягацкіх сходаў, сябры кіруючых ворганаў, саўгасаў, сельска-гаспадарчай кааперацыі, асабліва калгасаў, сяляне-дасьледчыкі, хатнікі, настаўнікі, важатыя піанэратрадаў і інш.

Нарады склікаць на працягу лютага-сакавіка, на нарадах неабходна усебакова прапрацаваць пытаньня практычнай працы па правядзеньню вясновай сяўбы ў данным раёне. Асабліва завастрыць увагу на азнаямленьне з саюзнымі і беларускім законам аб павышэньні ўраджайнасьці і практычным выкананьні іх.

*Каротка-тэрміновыя сялянскія курсы.* Трэба дабавіць, каб гэтыя курсы былі найбольш масавыя. Увесь сялянскі актыў пагалоўна павінен прайсьці гэтыя курсы: партыйцы, камсамольцы, сельсаветчыкі, дэлегаткі, калгасьнікі, рабочыя і работніцы саўгасаў, шырока ўцягваючы сялянскія масы наогул. У праграму гэтых курсаў уключаюцца пытаньні тых галін сельскай і гаспадарчай вытворчасьці, у якіх больш за ўсё заняты жанчыны. Дзе ёсьць магчымасьць, трэба арганізаваць асобыя курсы па падрыхтоўцы да пасяўной кампаніі пры саўгаскіх калгасах.

*Сетка партыйнай і камсамольскай асьветы.* У праграму сеткі як партыйнай, так і камсамольскай асьветы ўключаецца адна аснаўная гутарка аб пасяўной кампаніі. Гэтай гутарцы ўдзяляецца ня менш 6 гадзін: 3 гадзіны праработкі матар'ялу і 3 гадзіны канфэрэнцыя. Школа праверае практычнае ўжываньне тых ведаў, якія атрыманы ў гэтай гутарцы, і распаўсюджваньне іх партыйцамі і камсамольцамі сярод акаляючага працоўнага сялянства. Матар'ял для гэтае гутарцы будзе надрукаваны к № 4 у „Дапамогу партвучобе". Гэтая-ж гутарка праводзіцца з усімі таварышамі, якія вызначаны да паездкі ў вёску на бліжэйшыя месяцы па лініі шэфскай арганізацыі. Ва ўсёй гарадзкой як партыйнай, так і камсамольскай сеці партасьветы праводзіцца адна двухгадзінная гутарка, прысьвечаная пасеўной кампаніі і практычнага ўдзелу ў ёй працоўных гораду.

*Дэлягацкія сходы.* На бліжэйшы час трэба пранізаць усю работу дэлягацкіх сходаў агранамічнай прапаганды і прапаганды калектывізацыі і вытворчага каапэрыраваньня сельскай гаспадаркі. Гэтая работа павінна праводзіцца ў напрамак вывучэньня практычных мерапрыемстваў па падвышэньню

ураджайнасьці, падвышэньню прадукцыйнасьці сельскай гаспадаркі, формамі і мэтадамі яе арганізацыі.

Тры заняткі дэлягацкіх сходаў цалком прысьвячаюцца пытаньням вяснавой пасяўной кампаніі (два заняткі агульным пытаньням пасяўной кампаніі, адны заняткі пляну сельсавета па пасяўной кампаніі). Матар'ял будзе зьмешчан у номеры 4 у „Дапамогу партвучобе“.

*Курсы-канфярэнцыі для працоўных сялянак.* Для больш поўнага ахопу працоўных сялянак, мэтазгодна паміма іх шырокага ўцягненьня ва ўсе курсы і канфярэнцыі, якія адбудуцца на мясцох, склікаць асобныя курсы і канфярэнцыі, для працоўных сялянак па сельсаветам, на якіх прапрацаваць пытаньне пасяўной кампаніі ў тых галінах сельска-гаспадарчай вытворчасьці, у якіх больш за ўсё заняты жанчыны: агародніцтва, малочная гаспадарка і інш.

*АПА Габінэты і палітасьветустановы.* АПА Габінэты і шэфтаварыства павінны наладзіць сталую кансультацыю выяжджаючых на вёску для правядзеньня пасяўной кампаніі. У хатах-чытальнях, нар. дамах і памагчымасьці ў чырвоных кутках неабходна паставіць шырокую даведчую работу па пытаньням пасяўной кампаніі.

*Вясковыя піанэратрады і школа.* Ва ўсіх вясковых піанэратрадах і школах трэба таксама прапрацаваць пытаньні пасяўной кампаніі. Трэба піанэру і школьніку азнаёміць з аснаўнымі мэтадамі падвышэньня ураджайнасьці. Піанэры і школьнікі могуць удзельнічаць практычна ў пасяўной кампаніі шляхам збору попелу, дапамогі аграперсаналу ў правядзеньні шэрагу прасьцейшых мерапрыемстваў (зернаачышчэньне, барацьба са шкоднікамі, вучоту па зробленай працы, уцягненьне бацькоў вучняў у ажыцьцяўленьні шэрагу мерапрыемстваў: пашырэньне карнеплодаў, скарыстаньне торфу збору касьцей і г. д.

*Друк і насьценгазэты* павінны таксама займаць значнае мейсца, як у распаўсюджываньні сярод самых шырокіх мас працоўнага сялянства дырэктыў партыі і Савецкай улады па падвышэньню ураджайнасьці, павялічэньню сельска-гаспадарчай прадукцыі, таксама і ў азнаямленьні сялянства з практычнымі мерапрыемствамі, якія можа ўжываць кожны селянін у сваей гаспадарцы. Уся работа па правядзеньню вясковага севу павінна быць асьветлена ў насьценгазэтах і ў друку, а менавіта работа земворгану, камітэтаў узаемадапамогі, сельска-гаспадарчай коопэрацыі, саўгасаў, калгасаў, асобых гаспадарак шэфскіх арганізацыяў і інш.

Важнейшая задача рабачкомаў, саюзу Сельгаслесрабочых, максімальна ажывіць работу вытворчых нарад у саўгасах у сувязі з ажыцьцяўленьнем задач пасяўной кампаніі, уцягваючы ў іх саўгасаўскую масу.

Настаўніцкія канфярэнцыі ў раёнах, якія будуць правадзіцца ў час падрыхтоўкі да вясновай пасяўной кампаніі, павінны таксама праходзіць пад знакам дапамогі вырашэньні задач, пастаўленых партыяй і Сав. уладай у пасяўной кампаніі.

Трэба памятаць, што ад пасьпяховага правядзеньня агранамічных мерапрыемстваў значна залежаць вынікі пасяўной кампаніі, згодна дырэктыў партыі аб павышэньні ўраджайнасьці, павышэньні сельска-гаспадарчай прадукцыі і далейшага ўзросту калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Стрыжнем усёй агітпрацы на вёсцы ў бліжайшыя месяцы павінна стаць агранамічная прапаганда і прапаганда калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў сувязі з правадзімым вясновым севам.

Заг. АПА ЦК КП(б)Б *Стасевіч.*

Заг. Аддзелу Работы на вёсцы *Ляўкоў.*

Заг. Жанаддзелам ЦК КП(б)Б *Крэмер.*

## Рэзалюцыя вясковай нарады жанпрацаўнікоў пры Жанаддзеле ЦК КП(б)Б ад 2-II-29 г., зацьверджаная сакратарыятам ЦК КП(б)Б.

### Аб уцягненьні сялянак у работу па ўздыму вытворчасьці сельскай гаспадаркі і вясеньняй пасяўной кампаніі.

1. У справе ўцягненьня сялянак у падняцьце ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскай гаспадаркі маюцца паасобныя пачынаньні ў сувязі з „мэтавай устаноўкай“ у дэлегацкіх сходах (арганізацыя паказальных агародаў, вучасткаў, ачыстка насеньня і г. д.).

2. Разам з гэтым, ня гледзячы на ўзрост цікавасьці сялянак да пытаньня агракультурнага ўздыму сваёй гаспадаркі, гэта работа недастаткова афармілася і замацавалася.

3. Галоўнымі недахопамі ў працы, якая праводзіцца сярод сялянак у галіне масавай сельска-гаспадарчай работы, неабходна лічыць:

а) недастатковую орыентыроўку дэлегацкіх сходаў на растлумачэньне і прапаганду практычных пытаньняў тэхнічнай і сацыяльнай перабудовы сельскай гаспадаркі, прыстасаваных да ўмоў даных раёнаў і асабліва ў тых галінах гаспадаркі, у якіх пераважна працуюць жанчыны;

б) слабая арганізатарская роля дэлегатак, у сілу чаго праводзячы ў сваіх гаспадарках тыя, альбо іншыя аграна-

мічныя мерапрыемствы, яны ня ўмеюць і не падрыхтоўваюцца да таго, каб у такую-ж працу ўцягнуць і шырокія колы сялянак;

в) зусім не праводзіцца ўцягненьне сялянак у дасьледчую працу па сельскай гаспадаркі, а таксама не ўключаюцца ў сыстэму абслугаваньня Наркамзема дасьледчыцы; слаба вывучаецца сацыяльны склад сялянак-актывістак, выступаючых застрэльшчыкамі ў справе ўздыму сельск. гаспад.;

г) усё гэта ў значнай меры тлумачыцца слабым азнаямленьнем жанарганізатараў і кіраўнікоў дэлегацкіх сходаў з пытаньнямі пэрспэктыў разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў іх раёнах і адсутнасьцю сярод іх элемэнтарнай агра-тэхнічнай пісьменнасьці;

д) разам з тым Наркамзем і яго органы на мясцох, сельска-гаспадарчая коопэрацыя і палітасьветы да гэтага часу не ўдзялілі належнай увагі справе ўцягненьня сялянак у справу ўздыму сельскай гаспадаркі і не прыцягнулі агранамічных сіл да гэтай справы нават і дзеля абслугоўваньня жаночага актыву і дэлегацкіх сходаў. У прыватнасьці ў статыстыцы Зםорганаў адсутнічае вывучэньне колькасьці сялянак-адзіночак і аказваемай ім організацыйна-гаспадарчай дапамогі (крэдытаваньне, земляўпарадкаваньне, чыстка насеньня і інш.).

4. У сувязі з дырэктывамі партыі і ўраду аб уздыму ўраджайнасьці сельскай гаспадаркі і разьвіцьця яе вытворчых сіл у прыватнасьці аб асобых задачах бягучай вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі, неабходна:

1. Павесьці работу па зьнішчэньню агранамічнай няпісьменнасьці і азнаямленьню з плянамі вясеньняй пасевкампаніі кадраў жанарганізатараў і кіраўнікоў дэлегацкіх сходаў, уцягваючы жаночы актыў, на адпаведныя агульныя с.-г. курсы, утвараемыя для вясковага актыву з тым, каб ахапіць праз апошнія ня менш 30 проц. жаночага актыву. Адначасова прадугледзець у праграмах курсаў для жанарганізатараў, якія мяркуюцца правесьці ў летні час, выкладаньне агранаміі.

2. Дзеля актывізацыі дэлегатак і падрыхтоўкі іх да ролі ініцыятараў і арганізатараў агра-тэхнічных паляпшэньняў, правядзеньня абавязковага агра-мінімуму неабходна: а) Аддзелу Работніц і АПАД ЦК КП(б)Б тэрмінова распрацаваць матэрыялы для дадатковых заняткаў на дэлегацкіх сходах па пытаньням уздыму ўраджайнасьці і практычнаму пляну вясеньняй пасеўкампаніі ў даным раёне і сяле; б) прыняць меры да паляпшэньня практычнай работы дэлегатак у гэтай галіне (закладка агародаў вопытных вучасткаў, збор і скарыстаньне попелу і г. д.), для абслугоўваньня дэлегацкіх сходаў агранамічнай работай; у праграмы дэлегацкіх сходаў унесьці больш элементаў агранамічных ведаў; в) дабіцца

100 процантаў ачысткі насеньня дэлегаткамі і ўцягненьня апошнімі шырокіх мас сялянства ў ачыстку нясеньня і іншыя прасьцейшыя агранамічныя мерапрыемствы; г) забясьпечыць агранамічнае кіраўніцтва гэтай работай з боку Земорганаў і агранаміі, дзеля чаго Наркамзему даць адпаведныя ўказаньні земорганам аб абавязковым прыцягненьні аграномаў да гэтае справы.

3. Пры правядзеньні агульнай работы з сялянствам у сувязі з правядзеньнем абавязковага аграмінімуму, зернаачысткі і г. д. неабходна, каб партячэйкі прынялі меры да большага ахопу гэтай работай сялянак-бяднячак і сераднячак, уцягваючы іх ў агульныя сходы, падрыхтоўвая на папярэдніх жаночых сходах, уцягваючы ў сходы беднаты, у работу с-г. сэкцыі с-с у таварыствы па распаўсюджваньню агранамічных ведаў, вылучая сялянак у якасьці агранамічных упаўнаважаных на пасёлках і вёсках. Пры масавай рабоце вакол ўнядрэньня ў сялянскую гаспадарку прасьцейшых аграмерапрыемстваў, неабходна асобна прапагандаваць мерапрыемствы сярод сялянак, падымаючы вытворчасьць і таварнасьць тых галін сельскай гаспадаркі, дзе пераважае жаночая праца (карняплоды, лён, палепшаньне кармоў, мерапрыемствы па паляпшэньню малочнай гаспадаркі і інш.).

4. Усю гэту працу неабходна праводзіць шляхам уцягненьня сялянкі да пераходу на колектыўныя формы вядзеньня сельскай гаспадаркі з тым, каб праз аб'яднаньне бяднячак і сераднячак вакол прасьцейшых пачынаньняў (калектыўныя агароды, калектыўнае набыцьцё машын, палягчаючых працу сялянкі) складаць умовы да пераходу на больш высокую ступень коопэраваньня.

У тых мясцовасьцях, дзе намечана ў час вясеньняй кампаніі арганізацыя калгасаў, зараз-жа правесьці растлумачальную работу сярод бяднячак і сераднячак, паставіўшы галоўнай мэтавай устаноўкай дэлегацкага сходу ў гэтай вёсцы работу па стварэньню калгасаў, па большаму уцягненьню ў іх сялянак.

5. Дзеля аказаньня належнай дапамогі бядняцкім гаспадаркам жанчын-адзіночак, правесьці мерапрыемствы па абслугоўваньню ў першую чаргу гэтых гаспадарак пракатнымі і злучнымі пунктамі, арганізацыю праз камітэты ўзаемадапамогі труд-гуж-дапамогі, выдачу насенных ссуд і неабходных крэдытаў, а такасма дапамогу з боку калгасаў і саўгасаў Наркамзему, фракцыі Белсельсаюзу і ЦК КСУ даць паказаньні па гэтаму пытаньню па сваёй лініі.

Дзеля высьвятленьня нужд бяднячак-адзіночак і арганізацыі неабходнай дапамогі іх гаспадаркам прыцягнуць дэлегацкія сходы і камсамол.

Наркамзему правесьці выбарачнае абсьледаваньне становішча гаспадарак сялянак-адзіночак і аказываемай ім дапамогі.

6. Наркамасьветы забясьпечыць у рабоце культасьветных установ (хаты-чытальні, чырвоныя куткі) папулярызацыю сярод сялянак прасьцейшых агранамічных мерапрыемстваў, шляхам правядзеньня гутарак, чытак па агранамічным пытаньням, устройства агульных выставак, экскурсій на дасьледчыя станцыі і вучасткі і лепшыя калгасы і саўгасы. Палепшыць мэтадычнае і тэхнічнае абслугоўваньне сельска-гаспадарчых гурткоў і гурткоў дамаводзтва у прыватнасьці, пашырыць практыку організацыі спэцыяльных жаночых гурткоў па асобным агра-тэхнічным пытаньням (жывёлагадоўля, карняплоды, травасеяньне, малочная гаспадарка, птушкаводзтва, ільнаводзтва і г. д.), замацаваўшы належнае абслугоўваньне іх з боку агранома і Райпалітпрасьветкома, а таксама снабжэньня гурткоў літаратурай па сельска-гаспадарчым пытаньням, адначасова арганізаваць сельска-гаспадарчыя гурткі і курсы для сялянак, пры школах сялянскай моладзі і саўгасах. Дзеля масавай аграпрапаганды максымальнае скарыстоўваньне вясковае настаўніцтва.

7) Наркамзему і Дзяржвыдавецтву пры выданьні літаратуры па пасяўной кампаніі прадугледзець выданьне папулярнай літаратуры для сялянак па пытаньням сельскай гаспадаркі, асабліва па тым галінам сельскай гаспадаркі, дзе пераважае праца сялянак (жывёлагадоўля, гародніцтва, ільнаводзтва і інш.).

Адначасова рэдакцыя часопісі „Беларуская Работніца і Сялянка“ вылучыць аддзел, у якім асьвятляць пытаньне колектывізацыі і ўздыму сельскае гаспадаркі, у прыватнасьці больш сваячасова зьмяшчаць матарыял па пытаньням, зьвязаным з правядзеньнем вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі.

Больш асьвятліць у агульным друку пытаньне аб уцягненьні жанчын у справу ўздыму сельскае гаспадаркі і пасеўную кампанію. Больш распаўсюджваць сярод жаночага актыву часопісь „Плуг“.

8. Больш увязваць усю працу з камсамолам і ўцягнуць у „паход“ камсамолу дзяўчат-батрачак, бяднячак і серадначак.

9. Дабіцца большага абслугоўваньня сялянак, асабліва бяднячак і самастойных гаспадарак, з боку шэфорганізацый як у справе аказаньня ім дапамогі, так і ў правядзеньні агранамічнай прапаганды. Больш уцягнуць работніц у актыўную працу па шэфству ў надыходзячую пасеўную кампанію.

## Чаму патрэбна паскарэньне ўздыму ўраджайнасьці і якія ёсьць падставы для вырашэньня гэтай задачы.

Паскарэньне тэмпу разьвіцьця сельскае гаспадаркі і ў прыватнасьці уздыму ураджайнасьці зьяўляецца баявой і неадкладнай задачай. Выдадзен спэцыяльны дэкрэт Урадам СССР аб падвышэньні ўраджайнасьці ня менш як на 30—35 проц. за наступнае пяцігодзьдзе ў ва ўсім саюзе і Урадам БССР, аб падвышэньні ураджайнасьці ў Беларусі на 45 проц. за пяцігодзьдзе.

Ставіцца надзвычайна вялікая задача, якую не ставілі і ня могуць ставіць ні адна дзяржава ва ўсім сьвеце і вырашыць якую могуць толькі працоўныя масы Савецкага Саюзу.

Чаму мы асабліва цяпер так рашуча ставім пытаньне аб уздыму ураджайнасьці?

Аб гэтым зусім выразна падкрэсьлена ў саюзным законе аб сельска-гаспадарчым падатку („Праўда" №33 за 9 лютага 1928 г.). Падкрэсліваючы нашы дасягненьні ў галіне росту пасеўных плошчаў, асабліва пад тэхнічнымі культурамі, пашырэньне шматпольля, узрост жывёлагадоўлі, каапэрываньне насельніцтва і г. д., у дэкрэце адзначаюцца і наступныя моманты: „Аднак гэтых посьпехаў недастаткова для забясьпячэньня хутка узрастаючых запатрабаваньняў гораду і вёскі ў прадуктах сельскае гаспадаркі. Асабліва адстае ў сваім росьце зернавая гаспадарка. Недастатковы рост зернавых засеваў пры крайне нізкай ураджайнасьці вызывае перабоі ў снабжэньні насельніцтва хлебам, а вываз хлеба заграніцу зусім спыніўся".

Зразумелая рэч, што такое зьявішча, як недахват хлеба, трэба зьліквідаваць як можна хутчэй, бо гэта можа ня спрыяюча адбіцца на вытворчасьці прадуктаў прамысловасьці. З другога боку, выпадзеньне з экспарту нашага хлеба, якога вывозілася прыблізна каля 20 мільёнаў тон, ня спрыяюча адбіваецца на нашым тавараздвароце з буржуазнымі дзяржавамі.

Праўда, і да вайны мы вывозілі хлеб за межы не адлішкаў, а ад нястачы і беднасьці; бедняцкія і серадняцкія гаспадаркі, на чыю долю прыпадала каля паловы ўсяго экспарту, самі елі хлеб з мякінаю, не даядалі, а прымушаны былі прадаваць хлеб для аплаты падаткаў і задавальненьня рэшты патрэб, а палова экспарту, каля 10 мільёнаў тон, прыпадала на абшарніцкія, гаспадаркі, якія Рэволюцыяй канчаткова выкарчованы, і на кулацкія гаспадаркі, якія таксама ў шмат разоў паменшыліся.

Зараз асноўным вытворцам і дастаўшчыком на рынак сельска-гаспадарчых прадуктаў зьяўляецца бедняцка-серад-

няцкая частка вёскі і яна якраз павінна поўнасьцю задаволіць і свае патрэбы і патрэбы, разгорнутыя соцыялістычнай прамысловасьцю.

Кастрычнікавая Рэвалюцыя поўнасьню перадала ўсю зямлю працоўным і дзякуючы палітыкі савецкае ўлады ў сучасны момант мы маем значнае ўзмацненьне серадняцкае групы сялянства за кошт падцягваньня беднядкае часткі вёскі. Між тым у сучасны момант мы па БССР па дадзеным Навукова-Дасьледчага Інстытуту маем ля 25 проц. нескарыстанай зямлі, не ўцягнутае ў сельска-гаспадарчы зварот. І хаця засеўная плошча ў БССР, згодна статыстычнага даведніка на 1929 г., павялічылася, з 2.389.426 г. ў 1916 годзе да 3.366.399 г. ў 1928 г. на 976,973 гэкт., або на 40,9 проц. у сярэднім на 3,4 проц. ў год, аднак тэмп росту пры такой колькасьці нявыкарыстанай зямлі недастатковы; адсюль аднэй з аснаўных задач зьяўляецца рашучае змаганьне за павялічэньне пасеўнае плошчы, якая новым законам аб с. г. падатку зусім будзе аслабанена ад абкладаньня ў працягу 2-х гадоў.

Праўда, у засеўнай плошчы, у ўмовах Беларусі, мы маем надзвычайна вялікія зьмены ў сэнсе рэарганізацыі палявой гаспадаркі. Мы маем значныя павялічэньні плошчаў пад такімі культурамі, як бульба, тэхнічныя культуры і травы, якія ламаюць старую трохпалёвую сыстэму гаспадараваньня і пераводзяць на больш даходны шлях тэхнічнага і жывёлаводнага напрамку. Так за пэрыяд з 1916 году па 1927 г. мы маем наступны рост засеўных плошчаў пад рознымі групамі с. г. культур:

| Групы культур | Пасеўная плошча ў дзесяцінах | | | | у %% да 1916 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1916 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Збажовыя . | 2002600 | 2277600 | 2320700 | 2338000 | 113,7 | 115,9 | 116,0 |
| Тэхнічныя . | 102900 | 133900 | 136100 | 154300 | 130,1 | 132,3 | 150,0 |
| Бульба . . | 217800 | 347,2 | 383000 | 410700 | 159,4 | 175,2 | 188,5 |
| Травы . . | 115000 | 118100 | 137800 | 164200 | 102,7 | 119,4 | 148,4 |
| Уся плошча. | 2438300 | 2876900 | 2977600 | 3069000 | 118,0 | 122,1 | 125,8 |

Як бачым, пасеў бульбы вырас на 88,6 проц., тэхнічныя культуры на 50,0 проц. і травы на 48,4 проц.

Як бачым, аб'ектыўна наша гаспадарка колькасна паляпшаецца, а адсюль самае галоўнае не ў росьце засеўных плошчаў, а ў надзвычайна нізкай ураджайнасьці нашых сялян-

скіх гаспадарак і да сучаснага моманту надзвычайна нізкія. Так ў сярэднім па БССР мы маем наступныя лічбы за 1927 г. ў параўнаньні з сярэднімі даваеннымі гадамі.

| Гады | Ураджай у цэнтнэрах на гэктар. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | жыта | Пшаніцы | Аўсу | Ячменю | Бульбы | Лёну семя | Лёну Валакна |
| 1905—1915 . . | 6,1 | 7,8 | 6,8 | 6,6 | 63,7 | 4,2 | — |
| 1927 . . . | 6,4 | 7,6 | 5,6 | 6,5 | 80,4 | 2,4 | 2,0 |

Як бачым з табліцы, толькі бульба дае рэзкае павялічэньне ўраджайнасьці і крыху павялічылася ураджайнасьць жыта, рэшта-ж культур дае нават некаторае зьніжэньне ўраджайнасьці. Зразумелая рэч, што такое становішча ўраджайнасьці ня можа нас здаволіць, пагодзіцца з гэткімі нізкімі ўраджаямі, якія не даюць росту гуртавое прыбытковасьці, мы ня можам.

Ня можа нас здаволіць і даваенны тэмп росту ўраджайнасьці, які ў сярэднім па саюзу вызначыўся ў 1 проц. на год, тады як тэмп росту нашае прамысловасьці цяпер прыблізна ў 4 разы перавышае дарэволюцыйны тэмп.

Паўстае пытаньне, а ці можам мы ў сэнсе павышэньня ўраджайнасьці пайсьці іншым тэмпам, чым да Рэвалюцыі, і якія ёсьць падставы да запраэктаваных Урадам працэнтаў падвышэньня ўраджайнасьці.

Шмат хто з буржуазных вучоных даводзіць, што такія паскораныя тэмпы немагчымы, што мы павінны разьлічваць прымерна на такі тэмп, які быў да Рэвалюцыі і які кожны год прыблізна запраэктовываўся нашымі пэрспэктыўнымі плянамі, і ў крайнім выпадку дапушчаюць тэмп, з якім паляпшалі сваю гаспадарку зарубежныя буржуазныя дзяржавы.

Сьцьвярджаючы так, людзі зусім забываюцца аб тым кардынальнейшым факце, што сучасная дзяржава—гэта-ж не царская Расея, што сучаснае сялянства, абуджанае Кастрычнікавай рэвалюцыяй, захоўвае ў сябе зусім іншыя, супроцьлеглыя магчымасьці. Яшчэ пад час першае рэвалюцыі 1905 г. т. Ленін зусім яскрава даводзіў, што ўраджай ў царскай Расеі рос так ганебна, ціха з прычыны самой сутнасьці царскага ладу. Вось як ён кажа ў IX томе на старонцы 658. „Калі застаюцца латыфундыі, нямінуча застаецца і кабальны селянін, дробная арэнда на год, урабленьне „панскай“ зямлі сялянскім інвэнтаром, гэта знача застаецца існаваць самае адсталае культура і ўсё тое азіяцкае барбарства, якое называецца патрыяхальным вясковым пабытам“.

На старонцы-ж 658 таго-жа тому, тав. Ленін кажа: „Дзеля таго, што прыгонніцкія латыфундыі трымаюць Расійскае сялянства... у забітым стане і ўвенчываюць пры дапамозе адработку ды кабалы самыя адсталыя способы і мэтады гаспадаркі на зямлі,—таму ўтрудняецца і тэхнічнае разьвіцьцё, і разумовы рост сялянскае масы, рост яе самадзейнасьці, адукаванасьці, ініцыятывы, патрэбны для гаспадарчага скарыстаньня непараўнальна большай масы зямлі з расійскага запасу, як скарыстоўвываюцца намі зараз“. (Цытую з брашуры Я. А. Якаўлева „Аб павялічэньні ўраджайнасьці“. Менск 1929 г.).

Прычыны, якія падкрэсьлены тав. Леніным, Кастрычнікавая Рэвалюцыя зьнішчыла нашчэнт, і зараз мы маем поўнасьцю распрыгоненнае сялянства арганізаваўшы самадзейнасьць якога можна сапраўды рабіць цуды. Сацыяльныя адвагі і эканамічныя ўмовы для рашучага ўздыму ўраджайнасьці ў нас маюцца, трэба правільна скарыстаць і палепшыць прыродныя ўмовы.

Паглядзім, наколькі тут мы маем падставы для іншых тэмпаў перабудовы гаспадаркі.

Па дадзеных навуковых працаўнікоў Беларусі наш клімат вельмі спрые ўстойліваму вядзеньню сельскае гаспадаркі і высокім ураджаям. У нас няма рэзкіх хістаньняў кліматычных умоў і амаль поўнасьцю адсутнічае пагроза засухі, як у іншых частках Саюзу.

Глебы нашы мала чым адрозьніваюцца ад глеб Заходня-Эўропейскіх дзяржаў. А між тым мы маем ў 3-4 разы меншыя ўраджаі, чым у Заходняй Эўропе.

У чым-жа справа? А справа ў тым, што мы і да гэтага часу гаспадарым па старому, тэхніка апрацоўкі і ўгнаеньня глебы ў нас пануе яшчэ дзедаўская, гаспадарка правільна не арганізавана, перапрацоўка і збыт прадуктаў сельскае гаспадаркі не наладжаны і г. д. Эўрапейскія дзяржавы 100—150 год таму назад мелі гэткія-ж ураджаі, як зараз мы. З часу ўжываньня новых штучных угнаеньняў і лубіну новых прыёмаў тэхнікі на падставе досьледаў і навукі, новых машын і прыладаў—ураджаі іх пачалі рэзка павялічвацца.

Ці можам-жа мы зрабіць такі рашучы перелом у мэтадах вядзеньня сельскае гаспадаркі, ці павінны паўтарыць усе тыя фазы, па якіх разгортвалася сельская гаспадарка Заходня-Эўрапейскіх дзяржаў.

Бязумоўна можам і павінны гэта зрабіць. Як кажа тав. Якаўлеў на 4-й Сэсіі ЦВК Саюзу ССР IV склікаяньня.

„Мы, аднак, кажам, і маем усе падставы для гэтага, што зусім не абавязкова для нас зараз ісьці праз усе тыя прыступкі, па якіх ішоў рост ураджайнасьці ў Нямеччыне. Гэта-ж кожны ведае: адна справа ствaрыць модэль самалёту, другая справа, маючы гэтую модэль, па гэтай модэлі ства-

рыць другі такі самалёт. Гэта зусім розныя рэчы. На тое, каб стварыць першую модэль самалёта, трэба было сто-годздзі працаваць навуковай думцы. Але, калі ўжо модэль самалёту створана—зрабіць па гатовым узоры адзін, два, тры, тысячу, дзесяткі тысяч самалётаў ужо ў сотні і тысячы раз лягчэй. Мы параўнаўча з Нямеччынай знаходзімся ў такім становішчы, што не абавязкова зусім праходзіць усёй фазы разьвіцьця, якое Нямеччына мела на працягу 200 год, таму што мы можам аўладаць вынаходкамі Нямеччыны за 100 год у галіне мінэральных угнаеньняў, за тэрмін, роўны ня 100 гадам, а 10 гадам; таму што час стварэньня сельска-гаспадарчых машын мы можам значна скараціць, бяручы гэтыя машыны гатовымі.

Мы вельмі часта гаворым пра лёзунг—дагнаць і выпярэдзіць капіталістычныя краіны. Гэта наш каранны, аснаўны лёзунг. Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскае Інспэкцыі зрабіў надзвычайна вялікую дасьледчую працу па выяўленьні мажлівасьці ажыцьцявіць гэты лёзунг і ў нашым с. г. будаўніцтве: катэгарычна прыйшоў да выніку, што запраэктаваныя па Саюзу лічбіны ўздыму ўраджайнасьці на 30—35 проц. за пяцігодзьдзе зьяўляюцца ня толькі магчымымі, а рэальнымі пры тым мінімальным, калі будзе ажыцьцяўлён увесь той комплекс мерапрыёмстваў, якія вызначаны дэкрэтам Саюзнага Ураду аб падвышэньні ураджайнасьці.

Якія рэальныя падставы ёсьць у нас для рашучага ўздыму ўраджайнасьці?

Прыводзім табліцу ўраджайнасьці на дасьледчых станцыях Беларусі, у параўнаньні з ураджаямі селян-дасьледчыкаў і сярэднімі ўраджаямі звычайных сялянскіх гаспадарак, са справаздачы НКЗБ за 1927 г. (ураджай паказан у цэнтнэрах на гэктар):

| Назва культур і ў якіх гаспадарках. | Горэцкая Станцыя: Іванаўскае Дасьледчае поле | Горэцкая Станцыя: Дрыбінскае Дасьледчае поле | Менская Дасьледчая станцыя | Віцебская Дасьледчая станцыя | Турская Дасьледчая станцыя | Палеская Дасьледчая станцыя | Менская Балотная станцыя | Сярэдні ўраджай на ўсіх станц. незалежна ад глебы. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Жыта (зерня).** | | | | | | | | |
| Самы большы ураджай на дасьл. палёх . . . | 20,0 | — | 27,0 | 36,0 | 18,5 | 9,75 | 33,0 | 26,23 |
| Сярэдні ураджай гаспадаркі станцыі . . . . | 14,5 | 22,5 | 15,0 | 17,5 | 14,4 | 8,8 | 20,0 | 16,10 |
| У сялян-дасьледчыкаў: | | | | | | | | |
| Вышэйшы . . . . . . . | 15,0 | 20,0 | 15,0 | — | 8,02 | 8,0 | — | 15,20 |

| Назва культур і ў якіх гаспадарках. | Горэцкая Станцыя. | | Менская Дасьледчая станцыя. | Віцебская Дасьледчая станцыя. | Турская Дасьледчая станцыя. | Палеская Дасьледчая станцыя. | Менская Балотная станцыя. | Сярэдні ўраджай на ўсіх станц. незалежна ад глебы. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Іванаўскае Дасьледчае поле. | Дрыбінскае Дасьледчае поле. | | | | | | |
| Сярэдні . . . . . . . . | 12,0 | 15,0 | 9,06 | — | 12,0 | 5,0 | — | 10,61 |
| Сярэдні сялянскі ў раёне дзейнасьці станцыі . . . . . . . . | 10,0 | 13,3 | 6,42 | — | 8,0 | 4,0 | 6,0 | 7,95 |
| **Авёс (зерня).** | | | | | | | | |
| На Дасьледчай станцыі: | | | | | | | | |
| Вышэйшы . . . . . . . | 25,0 | 18,77 | 10,83 | — | 16,0 | — | 25,0 | 19,12 |
| Сярэдні ў гаспадарцы . | 17,0 | 9,67 | 10,50 | 9,0 | 10,5 | — | 22,0 | 13,11 |
| У сялян-дасьледчыкаў: | | | | | | | | |
| Вышэйшы . . . . . . . | 14,5 | 9,5 | 12,0 | — | — | — | 20,0 | 14,0 |
| Сярэдні . . . . . . . . | 11,0 | 9,0 | 8,80 | — | 9,0 | — | 20,0 | 11,56 |
| Сярэдні сялянскі . . . | 9,5 | — | 4,86 | — | 8,5 | — | 5,0 | 6,96 |
| **Бульба** | | | | | | | | |
| На дасьледч. станцыях: | | | | | | | | |
| Вышэйшы . . . . . . . | 250,0 | 411,0 | 274,2 | 120,0 | 240,0 | — | 230,0 | 254,2 |
| Сярэдні ў гаспадарцы . | 170,0 | 274,0 | 150,0 | 50,0 | 125,0 | — | 200,0 | 161,5 |
| У сялян-дасьледчыкаў: | | | | | | | | |
| Вышэйшы . . . . . . . | 170,0 | 200,0 | 225,0 | — | — | — | — | 198,3 |
| Сярэдні . . . . . . . . | 130,0 | 170,0 | 110,55 | — | — | — | — | 136,8 |
| Сярэдні сялянскі . . . . | 100,0 | 118,0 | 90,36 | — | 104,5 | — | 130,0 | 108,6 |

Як бачым з табліцы, нашы дасьледчыя установы яскрава паказваюць, што павялічыць ўраджай аснаўных культур магчыма самае малае ў 2 разы, а па некаторых станцыях і ў 3—4 разы (Менская Станцыя па жыту і бульбе). Дрыбінскае поле па бульбе і г. д. Другі надзвычайна важны факт, што паасобныя сяляне-дасьледчыкі амаль не адстаюць па ўраджаўнасьці ад сярэдніх ураджаяў гаспадарак дасьледчых станцыяў. Гэтыя факты яскрава сьведчаць, што і ў нашых ўмовах ёсьць зусім рэальныя тэхнічныя ўмовы для падвышэньня ураджаяў. Трэба толькі дасягненьні станцыяў і сялян-дасьледчыкаў шырока прасунуць ў практыку ўсіх сялянскіх гаспадарак, разгарнуўшы шырокую кампанію.

Аднак, прымаючы пад ўвагу, што ў сучасны момант бедняцка-серадняцкая частка вёскі зьяўляецца асноўным вытворцам сельска-гаспадарчых прадуктаў, якія ў сваёй масе зьяўляюцца індывідуяльнымі распыленымі сялянскімі гаспадаркамі, ў якіх нельга з посьпехам ажыцьцяўляць увесь комплекс агрыкультурных мерапрыёмстваў і ўсіх дасягненьняў агротэхнікі, асабліва ў сэнсе выкарыстоўваньня больш складаных культурных машын і прылад, мы павінны рашуча паставіць пытаньне аб узмацненьні тэмпу калектывізацыі і каапэрырваньня сялянскіх гаспадарак.

Толькі на базісе абагуленай тэрыторыі ў аптымальныя адзінкі, абагуліваючы працу і сродкі вытворчасьці, мы зможам рашуча і ў хуткім часе дагнаць і выпярэдзіць буржуазныя краіны.

Тое, што ўраджайнасьць ў калгасах значна вышэй, чым ў індывідуальных гаспадарках можна прасачыць па дадзеных калгасаў, якія па сутнасьці арганізовываліся стыхійна, без належнай організацыі і дапамогі.

Па дадзеных НКЗБ мы маем такія параўноўчыя лічбы:

Ураджайнасьць ў пудах на дзесяціну:

| Назва культур | У калгасах | | У сялянскіх гаспадарках | |
|---|---|---|---|---|
| | 1926 г. | 1927 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Жыта . . . . | 45,1 | 51,7 | 38,8 | 42,8 |
| Авёс . . . . . | 38,7 | 32,3 | 44,7 | 37,6 |
| Ячмень . . . . | 50,2 | 46,2 | 39,2 | 43,7 |
| Бульба . . . . | 629,0 | 543,2 | 637,0 | 534,0 |

Як бачым, па трох галоўных культурах ураджай калгасаў вышэй, чымся ў сялянскіх гаспадарках. Толькі па аўсу мы маем памяншэньне. Праўда, ўраджаі пакуль што не дастатковыя, але-ж паўтараем, што калгасы да гэтага году мала абслугоўваліся і маюць яшчэ больш напружаны балянс гною, чым звычайныя сялянскія гаспадаркі.

Такім чынам усе падставы для рашучага уздыму ураджайнасьці ў нашых Беларускіх умовах ёсьць, трэба толькі організаваць і мабілізаваць усю актыўнасьць працоўных мас вёскі і павесьці плянавую, разгорнутым строем, барацьбу за падвышэньне ураджайнасьці.

Трэба памятаць словы дэкрэту Саюзнага Ураду, што „... пры ацэнцы працы Выканаўчых Камітэтаў, Саветаў улічваць, побач з тым, паколькі правільна яны праводзяць клясавую лінію ў справе абароны інтарэсаў беднякоў і серад-

някоў і змаганьне з кулаком, таксама і тое, у якой меры яны зьяўляюцца кіраўнікамі уздыму сельскае гаспадаркі“...

Трэба дабіцца такога становішча, каб кожны партыяц вёскі праводзіў усю сваю працу пад кутком погляду уздыму ураджайнасьці данае вёскі, данага сельсавету або раёну. Усе мерапрыемствы, якія намечаны плянам веснавое сяўбы і аб якіх далей гаворыцца, павінны быць выкананы ў масавым парадку. Ні водная нарада, ні адзін вясковы сход сялян не павінен праходзіць без абгаварэньня практычных мерапрыемстваў па уздыму ураджайнасьці. Аднак, адных развaжаньняў недастаткова. Зараз трэба рашуча ад слоў перайсьці да справы, і кожны партыец вёскі павінен паказаць прыклад у справе арганізацыі калектыўных гаспадарак, вытворчых коопэрацыйных аб‘яднаньняў, арганізуючы бедняцка-серадняцкі актыў вёскі.

Кожны партыяц вёскі павінен стаць актыўным правадніком агрыкультурных палепшаньняў, аграномічнае навукі і сацыялістычнае тэхнікі ў сельскай гаспадарцы, быць прыкладам у калектывізацыі сваёй гаспадаркі. Трэба, каб кожны партыяц вёскі стаў селянінам-дасьледчыкам, увязаўшы сваю працу па гаспадарцы з інстытутам сялян-дасьледчыкаў Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І Леніна.

З другога боку, увесь той аграномічны мінімум, які прадугледжан беларускім законам па падняцьцю ураджайнасьці, павінен быць поўнасьцю і ў першую чаргу ажыцьцяўлён у гаспадарках партыйцаў.

Тыя-ж самыя задачы стаяць і перад камсамольцамі вёскі. Іх задача сыстэматычна і няўхільна мець уплыў на бацькоў усіх сяброў сям‘і, каб супольнымі сіламі будаваць новую гаспадарку. Калі-ж сям‘я ня згодна з прапановамі камсамольца—трэба дамагацца, каб была вылучана пэўная плошча для дасьледчага або паказальнага вучастку, або адна карова для паказальнага кармленьня, дзе-б камсамолец выключна уласнымі сіламі мог бы практычна даказаць перавагу новых прыёмаў гаспадараньня. Аб‘яднанымі сіламі усіх камсамольцаў вёскі або пасёлку, можна дабіцца на агульным сходзе вёскі пастановы, каб бацькі дазволілі вылучэньне такіх дасьледчых вучасткаў к аднаму месцу, каб там можна было адначасова весьці калектыўную працу па досьледу. Больш таго, амаль у кожным паселішчы ёсьць „разкі“, „наддаткі“, невялікія па плошчы, якія ў час надзяленьня зямлёй прырэзаліся да асноўных палос. Звычайна гэтыя „наддаткі“ знаходзяцца дзе-небудзь наводаль ад сядзібы і звычайна яны як раз дрэнна угнаіваюцца. Вось і трэба дамагацца, каб гэтыя „разкі“ перадалі камсамольскай арганізацыі, або сельскагаспадарчаму гуртку, каб на іх, не парушая агульнае сыстэмы палявое гаспадаркі, наладзіць калектыўнае дасьледчае поле.

Праграму такога поля трэба распрацаваць разам з мясцовымі аграномамі.

Зразумелая рэч, што гэтыя мерапрыемствы, якія намячае ЦК ЛКСМБ для камсамольцаў у паходзе за ўраджай, павінны быць поўнасьцю выкананы. Асабліва адказная задача будзе ляжаць на „лёгкай кавалерыі", якая павінна сачыць за поўным ажыцьцяўленьнем намечаных мерапрыемстваў усім савецкім апаратам і савецкай грамадзкасьцю.

Асабліва неабходна спэцыяльна падкрэсьліць ролю жанчыны ў справе падвышэньня ўраджайнасьці. Пры разьвязваньні ўсіх галоўнейшых задач мы, галоўным чынам, разьлічваем на мужчынскі актыў. Праўда, у сялянскай гаспадарцы кіраўнічая роля ў большасьці выпадкаў належыць селяніну, але-ж і сялянка адыгрывае там надзвычайна вялікую ролю. Трэба мець на ўвазе, што жанчыны ў сельскай гаспадарцы выконваюць большую палову гаспадарчае працы, а асабліва ў галіне жывёлагадоўлі, гародніцтве і па лёну. Тут яна амаль поўная гаспадыня і можа самастойна вырашыць і ажыцьцяўляць новыя прыёмы тэхнікі. Вось і трэба дабіцца такога становішча, каб пералічаныя галіны сельскае гаспадаркі былі пастаўлены на належную вышыню, бо яны зьяўляюцца крыніцамі таварнасьці і даходнасьці ў сельскай гаспадарцы.

Канкрэтна—кожная гаспадарка ў вёсцы павінна правільна наладзіць харчаваньне кароў і сьвіней. Правільна наладжанае харчаваньне (па агранамічным нормам) дае павялічэньне прадукцыі малака і сала і значна павялічвае даходнасьць гаспадаркі. З другога боку, рознастайны корм жывёлы дае і лепшую якасьць гною, што дасьць павялічэньне ўраджайнасьці палявых культур.

Абавязкова трэба наладзіць вучот прадуктаў пры розных нормах кармленьня, каб вылічыць, як выгадней карміць жывёлу. Сялянка павінна таксама дасканала ведаць, як трэба выгадаваць добрае цялё ці парасё, бо толькі правільная гадоўля жывёлы змаленства дае добрую, прадукцыйную жывёлу. Трэба сачыць, каб жывёла не засталася ялаваю на цэлы год, бо ад гэтага толькі страта ў гаспадарцы. Трэба дамагацца, каб хлеў быў цёплым, сухім і сьветлым, бо гэта вельмі павялічвае прадукцыю жывёлы.

Асабліва сялянкам трэба зьвярнуць увагу на пашырэньне птушніцтва ў гаспадарцы. Трэба завесьці заводзкіх гусей, качак і курэй, якія ва ўмовах Беларусі даюць вельмі значны прыбытак і самой сялянскай гаспадарцы і ўсёй дзяржаве. Гэтая галіна цалкам залежыць ад жанчыны.

Адносна гародніцтва. Трэба ў кожнай гаспадарцы завесьці такую плошчу гароду, каб здавальняць ня толькі патрэбы ўласнае гаспадаркі ў гародніне, а каб было што і прадаць. Цыбуля, часнок, мак, морква, капуста—у залежнасьці ад

раёну ва ўмовах Беларусі могуць даць вялікі даход гаспадарцы. Гароды трэба як мага больш пашырыць, каб поўнасьцю выкарыстаць працу ўсіх дарослых жанчын і падросткаў у гаспадарцы. Трэба толькі не раскідвацца, а заняцца чымнебудзь адным, напрыклад, цыбуляй або макам; тады будзе што і прадаць. Калі хочаце мець больш малака, абавязкова трэба даваць карове караньплоды.

Каб павялічыць прыбытковасьць гаспадаркі, абавязкова трэба больш сеяць лёну. Толькі трэба памятаць, што карысьць ад лёну будзе тады, калі будзе ўжывацца правільны пасеў і дагляд за ім, калі будзе рыхтавацца лён на валакно для продажу, а не для пражы ў гаспадарцы. Аб тым, якое якасьці павінен быць рыначны лён, кожная сялянка павінна ведаць, у гэтым ёй дапаможа спэцыяльная кніжка—агроном. Вялікае значэньне маюць каапэратыўныя аб'яднаньні па першапачатковай апрацоўцы лёну. Толькі ў такіх каапэратыўных аб'яднаньнях можна дабіцца большай прадукцыйнасьці працы, а разам з гэтым большай прыбытковасьці для гаспадаркі.

Нарэшце, самае простае мерапрыемста па падвышэньню ўраджайнасьці, як ужываньне попелу на ўгнаеньне, да таго часу ня будзе ажыцьцяўлена, пакуль сялянка не пачне зьбіраць попел.

Яшчэ адна драбніца,—усе памыйкі, сьмецьцё, лісьце саду і розныя адкіды выкідваюцца куды папала—на двор, у канаву і г. д. У выніку і брудна на дварэ, і згубляюцца каштоўныя ўгнаеньні. Усё гэта можна выкарыстаць, зрабіўшы кампостную кучу, куды і кідаць усялякія адкіды. Праз 1½—2 гады назьбіраецца значны лік вельмі каштоўнага для гароду ўгнаеньня.

Адным словам, роля жанчыны ў сельскагаспад. вялізарная. Трэба, каб жаночы актыў вёскі павёў разгорнутую работу за ўцягненьне жанчыны ў актыўную працу па сацыялістычнаму будаўніцтву і ўздыму ўраджайнасьці.

Калі нам удасца ўзварушыць усю савецкую грамадзкасьць, сады, можна будзе з упэўненасьцю сказаць, што задача ўздыму ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскае гаспадаркі задача па яе калектывізацыі будзе выканана.

*М. Лайкоў.*

---

## Мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці ў БССР.

Пастаўленая камуністычнай партыяй і Савецкім Урадам задача рашучага ўздыму ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскае гаспадаркі патрабуе ўжо з гэтага году ў пасяўныя кампаніі правесьці шэраг мерапрыемстваў арганізацыйна-

эканамічнага і агракультурнага характару, каб дабіцца ўздыму ўраджайнасьці ў гэтым годзе на 7 проц. па сэктару індывідуальных гаспадарак і на 12 проц.—па грамаджанаму сэктару—саўгасам і калгасам.

Пасьпяховае вырашэньне задачы па ўздыму ўраджайнасьці ўжо ў гэтым годзе можна ажыцьцёвіць толькі пры абавязковай ўмове, што найбольш простыя і даступныя бядняцка-серадняцкім гаспадаркам агракультурныя мерапрыемствы будуць ужывацца асноўнай масай гэтых гаспадарак. Да гэтых найбольш простых агракультурных мерапрыемстваў належыць: ачыстка насеньня, пратручваньне насеньня, раньнія і занятыя папары, радковы пасеў палепшаным насеньнем, ужываньне палепшаных спосабаў апрацоўкі зямлі, забарона пасьвіць жывёлы па азімых рунях, скасаваньне межнікаў, барацьба з шкоднікамі сельск. гаспадаркі, больш правільнае выкарыстоўваньне гною, палепшанае ўтрыманьне і харчаваньне скаціны, больш поўнае скарыстоўваньне палепшанага інвэнтару ў сялянскіх гаспадарках, калгасах, саўгасах, пракатных пунктах, рамонтных майстэрнях, магчыма большае ўжываньне попелу, вапны і торфу на ўгнаеньне, а таксама зялёнага ўгнаеньня і г. д.

Усё гэта разам, побач з пашырэньнем шматпалёвых севазваротаў і каштоўных культур у сельскай гаспадарцы (ільна, канаплі, бульбы, канюшыны), дазволіць пасьпяхова выканаць пастаўленую ўрадам задачу аб павялічэньні ўраджайнасьці.

Неабходна застанавіцца на галоўных мерапрыемствах зазначаных законам СНК Беларусі па ўздыму ўраджайнасьці (апубл. ў газэце „Сав. Беларусь“ ад 16-I-29 г.).

I. *Ачышчэньне насеньня.* У справе падвышэньня ўраджайнасьці ачышчэньне насеньня адно з пэўных і танных мерапрыемстваў. У нас ёсьць звыш 2000 зернаачышчальных машын. Гэтыя машыны ачышчаюць тольку шостую долю таго, што яны маглі-б ачышчаць, калі-б машыны нармальна былі загружаны і працавалі. У нас прыкладна адна зернаачышчальная машына ачышчае ў дзень 2—4 цэнт. (12—24 пуд.) зерна, у той час, калі яна павінна ачышчаць 8—20 цэнт. (50—120 пуд.) у дзень. Мы часта крычым: давай трыеры, сартоўкі. Але ня думаем, як ужо машыны тыя, што маюцца, скарыстаць у поўнай меры. Перш за ўсё мала ачышчаем насеньня таму, што сядзім і чакаем, каб селянін да нас прывёз ачышчаць насеньне. А калі ў селяніна няма каня. А трэба ведаць, што ў нас шмат сялян ня маюць коняй. На чым ён прывязе. Ня будзе-ж ён наймаць каня ў заможніка і плаціць грошы для таго, каб ачысьціць насеньне, ня ведаючы добра, дасьць яму гэта прыбытак ці не. Яго трэба ў гэтым упэўніць, на прыкладзе паказаць карысьць ад зернаачысткі.

Што запрапанаваў Савет Народных Камісараў БССР у законе па ўздыму ўраджайнасьці. Ён запрапанаваў паста-

віць справу зернаачысткі так, каб ужо ў гэтым годзе ачысьціць 50 проц. усяго высеваемага насеньня, а праз тры гады дабіцца 100 проц. ачышчэньня ўсяго пасяўнога матар'ялу, паставіў гэтае пытаньне ў абавязковым парадку для тых сялянскіх гаспадарак, якія наўмысьля не захочуць ачышчаць насеньня.

Для таго, каб ачысьціць намечаную колькасьць насеньня, неабходна арганізаваць зернаачышчальныя абозы, каб прыблізіць трыер да селяніна; дарэмна ачышчаць насеньне бядняцкім гаспадаркам, вызначыць льготныя ўмовы прадажы трыераў, сартовак цэлым зямельным грамадам, пашырыць арганізацыю машынных і пасялковых таварыстваў, якія будуць купляць зернаачышчальныя машыны, для арганізацыі абозаў. Акрамя таго трэба дабіцца пастаноўкі трыера на калёсы ўлетку і на сані ўзімку.

Сучаснае перасоўваньне зернаачышчальных абозаў па нарадах сельсаветаў прыводзіць да таго, што трыер хутка псуецца. Трэба паставіць трыер на спэцыяльныя калёсы альбо сані, ня зьнімаць яго кожны дзень, і тады ён больш доўга будзе працаваць, і зернаачышчальны абоз больш хутка будзе перасоўвацца ад пасёлка да пасёлка.

Што дае зернаачыстка. Паводле нашых падлікаў і досьледаў, яна павінна даць павялічэньне ўраджайнасьці мінімальна на 5—7 проц. У замежных краінах, дзе добра апрацоўваецца глеба, дзе палі мала засьмечаны пустазельлем, мерапрыемства ачышчэньня насеньня дае прырост ураджаю на 15—20 проц.

Калі ўзяць толькі 10 проц. прыбаўкі да ўраджаю ад зернаачышчэньня, дык мы мелі-б у БССР у 1928 г. па зернавому збожжу на 8 мільёнаў пудоў зярна больш, чым мы атрымалі сапраўды. Зразумела, прырост 8 мільёнаў пудоў зярна можа даць пры ўмове, калі перад высевам усё насеньня будзе ачышчана на сартоўках (трыерах).

2. *Пратручваньне насеньня.* З году ў год аграномамі праводзіцца кампанія па пратручваньню насеньня. Посьпех гэтай працы сярод сялян і яе разьмеры покуль што вельмі абмяжованы. Звычайна сялянствам пратручваецца насеньне пшаніцы і частка аўсу альбо ячменю, а рэшта высяваецца без пратручваньня. Паміж тым, сажа (галаўня) кожны год зьнішчае на 2—3 проц. ураджаю. Страты ад сажы (галаўні) вызначаюцца ў мільёнах рублёў. Гэта сумная лічба павінна прымусіць паразмысьліць ня толькі селяніна, але кожнага мясцовага працаўніка, які не заўсёды ўважліва адносіцца да мерапрыемстваў па барацьбе з шкоднікамі. І калі толькі адна сажа зьнішчае ўраджай звыш мільёна рублёў, дык іншыя шкоднікі ў сельскай гаспадарцы прыносяць страты кожны год на 30—35 мільёнаў руб., па самых скромных падліках. Калі мы сапраўды зразумеем усё значэньне страт ад

шкоднікаў і кожную вёску і пасёлак навучым змагацца з імі і дадзім патрэбныя сродкі барацьбы з шкоднікамі, дык бязумоўна здолеем адваяваць чвэртку таго збожжа, якое яны зьнішчаюць кожны год.

Ужо з гэтай вясны будуць кінуты ў вёску сродкі барацьбы з шкоднікамі: фармалін, сіні камень, жалезны купарос і іншыя для пратручваньня насеньня і апрыскваньня садоў.

Разам з правядзеньнем мер барацьбы з шкоднікамі, неабходна ўжываць меры, папярэджваючыя зьяўленьне шкоднікаў расьлін сельскае гаспадаркі. Да гэтых мерапрыемстваў належыць: зьнішчэньне межнікаў, зяблевая ворава, зьнішчэньне пустазельля, увядзеньне шматпалёвага севазвароту з правільным чаргаваньнем расьлін.

3. *Ужываньне гатунковага насеньня.* Замена пасеваў не гатунковым насеньнем на пасевы селекцыйным насеньнем дае павялічэньне ўраджайнасьці на 15—20 проц. Да вялікага жалю ў нас яшчэ мала гэтага гатунковага насеньня, але і тое, якое мы маем не заўсёды, скарыстоўваецца так, як гэта патрабуецца пры вытварэньні пасеваў сэлекцыйным насеньнем. Карысьць ад гатунковага насеньня будзе тады, калі засеў будзе вытварацца гатунковым насеньнем, усімі гаспадаркамі вёскі, пасёлка, а то і раёну.

У адпаведнасьці з тым, што гатунковае насеньне значна павышае ўраджайнасьць, Савет Народных Камісараў запрапанаваў ужыць меры, каб на працягу 5—6 гадоў усе пасевы вытвараліся гатунковым і палепшаным насеньнем. Для гэтага патрэбна пашырыць насеннаводзтва; спыніць у далейшым скарыстаньне гатунковага і палепшанага насеньня на спажывецкія патрэбы і ўтварыць дзяржаўны натуральны насенны фонд каля 2 мільёнаў пудоў. У кожным раёне, у кожным сельсавеце неабходна арганізаваць палі з гатунковымі і палепшанымі пасевамі, каб стварыць мясцовыя насенныя фонды. Тым пасёлкам, якія першымі пяройдуць да пасева гатунковым насеньнем, будуць дадзены льготы, прэміі.

Гэта ёсьць толькі частка мерапрыемстваў па насеннай справе, каб зьліквідаваць прарыў—адсутнасьць гатунковага насеньня. Калі мы разьвяжам гэтую задачу, дык да канца пяцігодзьдзя будзем мець пад чыстым гатунковым і палепшаным насеньнем каля 60 проц. усёй засеўнай плошчы. Гэта адно з самых важных мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці.

4. *Скарыстаньне палепшаных с.-г. машын і прыладаў.* Ні адзін мала-мальскі сьвядомы селянін ня будзе супярэчыць вялікай ролі палепшанай с.-г. машыны ў справе павялічэньня ўраджайнасьці. Роля машыны ў справе апрацоўкі глебы добра выяўлена ў нямецкай прыказцы, якая ў перакладзе гучыць гэтак—„добра ўзворана—на палову ўгноена“.

Ня гледзячы на такую значную ролю палепшанай с.-г. машыны—у нас яны распаўсюджаны вельмі мала. У большасьці сялянскіх гаспадарак акрамя плуга і жалезнай бараны для абработкі глебы ніякіх іншых машын няма. Шмат яшчэ сялянскіх гаспадарак Полаччыны, паўночнай Меншчыны (Барысаўшчына) карыстаюцца сахой. Адно ўжываньне палепшанага плуга ў адпаведнасьці з глебавымі ўмовамі можа павялічыць ураджай на 10 проц.

Наша сялянства ня толькі слаба набывае палепшаныя машыны, але нават слаба выкарыстоўвае ўжо маючыяся палепшаныя машыны на пракатпунктах, саўгасах, калгасах і г. д. Для прыкладу возьмем такую каштоўную машыну ў сельскай гаспадарцы, як радковая сеялка. Яна на аграпунктах скарыстоўваецца толькі 3—4 дні ў год у той час, як яна можа быць скарыстована на працягу 30 дзён. Таксама і іншыя палепшаныя машыны на пракатпунктах—палепшаныя плугі, бараны, льнамялкі, льнатрапалкі невыкарыстоўваюцца нават на 1/3 таго, як яны могуць быць выкарыстованы. Мы тут таксама, як і з машынамі па зернаачыстцы, не ўмеем арганізаваць селяніна навокала пракатнага пункта, зацікавіць яго і г. д. Савет Народных Камісараў у законе па ўздыму ўраджайнасьці зазначыў гэта і прапанаваў на працягу бліжэйшых гадоў дабіцца пераламу ў справе ўжываньня палепшаньня с.-г. машын і прыладаў. Вырашыць гэту задачу магчыма толькі праз арганізацыю машынных і пасялковых таварыстваў па агульнаму скарыстаньню сельска-гаспадарчых машын і прылад. Ужо ў 1928-29 г. патрэбна арганізаваць па БССР—машынных таварыстваў 381 і пасялковых—500.

Таксама патрэбна пашырыць машыннапракатныя пункты пры калгасах, з дапамогай якіх больш лёгка будзе зацікавіць селяніна ў арганізацыі машыннага таварыства. Разам з арганізацыяй машынных і пасялковых таварыстваў па пашырэньні складанага і палепшанага с.-г. інвэнтару, неабходна наладзіць справу рамонту с.-г. машын. Вельмі часта бывае, што купленая вельмі каштоўная машына не скарыстоўваецца за паломкай той ці іншай часткі яе. Адсутнасьць у раёне с.-г. майстэрні не дазваляе сваечасова адрамантаваць машыну і пусьціць яе ў працу. З рамонтам с.-г. інвэнтару ў нас таксама справа абстаіць дрэнна. У мінулым годзе па лініі аграмаджанага сэктару намячалася арганізаваць звыш 50 майстэрняў для рамонту с.-г. інвэнтару. Заданьне выканана ня больш як на 25 проц. У гэтым годзе намячаецца арганізаваць майстэрні:

| | |
|---|---|
| па калгасам . . . . . | 20 |
| „ саўгасам . . . . . | 10 |
| „ камітэтам узаемадап. . . | 50 |
| Усяго . . | 80 |

Акрамя таго ў акруговых гарадох—Воршы, Полацку, Магілёве, Бабруйску і Мазыру—намечана арганізаваць майстэрні сярэдняга тыпу па рамонту складанага с.-г. інвэнтару. Ня гледзячы на тое, што выдзяленыя крэдыты на арганізацыю майстэрняў, пералічаныя вышэй арганізацыі да арганізацый майстэрняў не прыступілі. Неабходна дабіцца пералому, каб кожны саўгас, калгас, раённы камітэт сялянскай узаемадапамогі мелі ў сябе майстэрні па рамонту свайго і сялянскага с.-г. інвэнтару.

5. *Пытаньні ўгненьня.* У ўмовах Беларусі аднэй з асноўных і галоўных прычын, затрымліваючых павялічэньне ўраджайнасьці, зьяўляецца недастатковае ўгнаеньне нашых глеб, надзвычайна бедных пажыўнымі матэрыямі. Добра ведаючы гэтую асноўную прычыну—недастатковае ўгнаеньне, аднак мы вельмі мала выявілі актыўнасьці, здольнасьці і працавітасьці, каб выкарыстаць усе магчымасьці па вырашэньні праблемы ўгнаеньня. Такія шляхі як лубінізацыя, тарфаваньне, вапнаваньне, фасвартаваньне, скарыстаньне на ўгнаеньне попелу, касьцей, мы яшчэ не выкарысталі і толькі да іх падыходзім, у той час як абавязковаю прадпасылкаю ўздыму ўраджайнасьці ў Беларусі павінна быць паляпшэньне ўгнаеньняў глебы.

а) *Лубін як зялёнае ўгнаеньне.* У справе павышэньня ўраджайнасьці глеб, а тым самым і ўздыму ўраджайнасьці галоўную ролю павінна адыграць зялёнае ўгнаеньне (лубін), як адзін з спосабаў таннага забесьпячэньня палёў арганічнай матэрыяй. Лубінізацыя—у асноўным мерапрыемства знаёмае і даступнае масавым сялянскім гаспадаркам. Высокая вартасьць лубіна на ўгнаеньне ў умовах БССР з яе пераважна пясчанымі глебамі ў раёнах—Мазыршчыны, Гомельшчыны, Бабруйшчыны і Магілёўшчыны—ужо даўно вывучана як дасьледчымі станцыямі, так і практычна сялянскімі гаспадаркамі. Вартасьць лубіна яшчэ больш павышаецца тым, што пасевы яго зьмяшчаюцца звычайна ў папаравым полі і гэтым самым не перашкаджаюць пасеву іншых культур у любым севазвароце,—будзь то трохполка альбо шматпольле.

Законам СНКому па ўздыму ўраджайнасьці дана задача пашырыць пасеў лубіна, каб у 1933 годзе мець пасяўную плошчу пад пасевам лубіну ў 500.000 гэкт., у адпаведнасьці з чым ужо у 1929 г. трэба пашырыць пасеў лубіна у два разы ў параўнаньні з 1928 г.

Асноўная прычына, якая затрымлівае пашырэньне пасеваў лубіна—гэта недастатковасьць насеньня лубіну. Кожны год наша каапэрацыя ня можа нагатаваць насеньня лубіну ў дастатковым разьмеры, каб забясьпечыць спрос сялянства поўнасьцю. У зьвязку з гэтымі чарговымі задачамі ў гэтай часьці будуць—разгортваньне мерапрыемстваў на пашырэньні лубінавага насеннаводзтва. Па лініі дзяржавы будуць арга-

нізаваны ў паўднёвых акругах гаспадаркі, якія пераважна будуць вырашчываць насеньне лубіну. Але гэтага мала. Неабходна, каб само сялянства пашырыла сваё ўласнае насенаводзтва? Тут дзяржава таксама ідзе на сустрэчу. Праводзіцца ў гэтым годзе кантрактацыя пасеваў лубіну на насеньне на плошчы 6.000 гэкт., што дасьць магчымасьць праз кантрактацыю атрымаць к вясьне 1930 г. каля 50.000 цэнт. насеньня. Пастаўлена пытаньне аб вызваленьні лубінавых пасеваў ад с. г. падаткаў. З боку дзяржавы прымаюцца ўсе меры да пашырэньня лубінавых пасеваў. Калі мы зможам мабілізаваць актыўнасьць і самадзейнасьць сялянства, дык і гэта задача будзе вырашана пасьпяхова.

б) *Торф як угнаеньне.* Незабясьпечанасьць беларускага сялянства жывёлай не дазваляе атрымаць такой колькасьці гною, каб магчыма было класьці на гэктар 2.400 пуд., як гэта патрэбна для нармальнага ўгнойваньня глебы.

Грубы падлік колькасьці гнаявога ўгнаеньня, якое можна атрымаць ад жывёлы, паказваецца наступным разьлікам (у пудох):

| Жывёла | Колькасьць галоў | Атрымлів. з 1 галавы гною ў год. | Усяго гною ў год |
|---|---|---|---|
| Коні . . . . . | 756.400 | 400 | 302.548 000 |
| Буйн. раг. жывёла . | 1.417.600 | 600 | 856.610.000 |
| Сьвіньні . . . . | 1.799.000 | 75 | 134.925.000 |
| Авечкі . . . . . | 1.391.500 | 35 | 48.685.000 |
| Усяго . . . | — | — | 1.336.768.000 |

Гэтая колькасьць гною пры ўмове ўнясеньня поўнай нормы—2.400 пуд. на гэктар—будзе выстарчаць толькі на 556.900 гэкт. альбо усяго 46 проц. поля патрабуючага ўгнаеньня.

Перад намі паўстае пытаньне, ці ня можна ў нашых умовах чым-небудзь замяніць не дастаючую колькасьць гною. Адказ ёсьць пэўны. Гной можна часткова замяніць лубінам, аб якім ужо ішла гутарка, і торфам, якім БССР надзвычайна багата.

У Беларусі няма амаль ні воднага паселішча, дзе на адлегласьці 3—5 кілём. ня было-б торфу.

Селянін далёкай Архангельшчыны ўжо даўно вырашыў пытаньне ўгнаеньня глебы торфам, ужываючы торф як падсьцілку для жывёлы. Архангельскі селянін дасягнуў высокіх

і ўстойлівых ураджаяў палявых культур, нават пры больш цяжкіх умовах гаспадараваньня. І ня толькі селянін далёкай Архангельшчыны пераканаўся у карысьці торфу як угнаеньня, і ў нас ёсьць ня мала сялян, якія на працягу 20—25 гадоў ужываюць торф на ўгнаеньне. Розьніца толькі ў тым, што ў Архангельшчыне ўсе сяляне карыстаюцца торфам, а ў нас толькі адзінкі—перадавыя сяляне.

Досьледы, праведзеныя на Энгельгардаўскай дасьледчай станцыі (Смаленскай губ.), а таксама шматлікія досьледы у камунах, арцелях і сялян дасьледчыкаў, паказваюць, што тарфяны гной больш каштоўны, чымся нават саламяны.

Дэкрэтам па ўздыму ўраджайнасьці запрапанавана НКЗему на працягу 2-х год пабудаваць буйны мэханізаваны завод па вырабу тарфяной падсьцілкі з вытворчасьцю ў 200.000 п. і дадаткова пабудаваць на працягу 5 год 25 саматужна-падсьцілачных фабрык. Такім чынам пытаньне аб ужываньні торфу на ўгнаеньне пастаўлена практычна і толькі ў самую працу па ўкараненьні тарфянога ўгнаеньня ўцягнуць максымальна шырокія колы актыўнага сялянства і працаўнікоў грамадзкіх арганізацый вёскі.

в) *Штучныя ўгнаеньні і вапваньне.* Праблема ўгнаеньня глебы ў умовах БССР будзе вырашана, калі ў дадатак да гною, лубіну, торфу будуць у шырокім разьмеры ўнасіцца ў глебу штучныя ўгнаеньні—супэрфасфат, касьцяная мука, калійная соль, фасфарытная мука і сульфат амоній. Па эфэкцыйнасьці штучных угнаеньняў БССР вылучаецца сярод другіх раёнаў не чарназемнай паласы, як раён, дзе штучныя ўгнаеньні ўжо ўжываюцца, дзе насенаводзтва ў масе з'агітавана і пры сучасных цэнах на ўгнаеньне чарга за прамысловасьцю—давай.

У бліжэйшыя гады з разьвіцьцём хэмічнай прамысловасьці ў Саюзе ССР—па вырабу ўсіх відаў штучных угнаеньняў—мяркуецца завесьці каля 75 мільёнаў пудоў розных угнаеньняў. За хэмізацыю земляробства БССР гаворыць досьлед Заходняй Эўропы (Нямеччына), якая падвоіла і патроіла свае ўраджаі, шляхам ужываньня ў шырокім маштабу мінэральных угнаеньняў. Аднак досьлед гэтых-жа краін гаворыць нам таксама аб тым, што дзеяньне мінэральных угнаеньняў будзе мець большы ўплыў на павялічэньне ўраджайнасьці, калі будзе праводзіцца папярэдняя падрыхтоўка глебы праз вапнаваньне.

Да практычнага правядзеньня вапнаваньня глеб мы падыходзім толькі цяпер. Практычна вырашана пытаньне з вапнаваньнем толькі краіны Заходняй Эўропы і Амэрыкі.

Вапна адхіляе кіслотнасьць глебы і тым самым паляпшаюцца ўмовы для росту расьлін і жыцьцёдзейнасьці мікраарганізмаў. У выніку ўзмацненьня жыцьцядзейнасьці мікраарганізмаў узмацняецца распад арганічнай матэрыі і пера-

воду яе ў даступныя формы для спажываньня расьлін. Дзякуючы хэмічнаму працэсу, які праходзіць у глебе ў зьвязку з ўнясеньнем вапны, палепшаецца структура глебы. У тых краінах, дзе ўжо даўно практыкуецца ўнясеньне вапны у глебу, складзена прыказка аб той вялікай ролі вапны. Гэта прыказка кажа—„Вапна ёсьць вартаўнік ўрадлівасьці глебы.

Урадам БССР пастаўлена задача на працягу 5 год па БССР завапнаваць 500.000 гэкт. пашні, у адпаведнасьці з чым ужо ў гэты год патрэбна завапнаваць 5.000 гэкт., пераважна у саўгасах, калгасах і сялян дасьледчыкаў. Маючы на ўвазе тую вялікую ролю вапнаваньня кіслых глеб, а такіх глеб у Беларусі шмат, гэтую задачу вапнаваньня 5.000 гэкт. мы практычна павінны пашырыць і завапнаваць у папаравым полі да 25.000 гэкт.

Вапнаваньне патрэбна праводзіць ня толькі на палёх сялян-дасьледчыкаў, а ўцягнуць да працы вапнаваньня шырокія колы сялянскіх гаспадарак. Дзяржава вылучае сродкі на пабудову заводаў—млыноў па здабычы і размолу вапнякоў, якія на тэрыторыі Беларусі знаходзяцца паўсямесна, а таксама вылучаюцца сродкі на крэдытаваньне насельніцтва на пакупку вапны. Па вельмі танным цэнам 3 р. 80 к. за тону ў крэдыт на 5 гадоў. На гэктар патрэбна 2—3 тоны. Такім чынам кожны селянін можа атрымаць 2—3 тоны вапны на гэктар у крэдыт на 5 гадоў і за гэта зьвярнуць усяго 7—9 р.

Патрэбна толькі шырока папулярызаваць гэта мерапрыемства сярод сялян і пры дапамозе аграпэрсанала практычна навучыць іх вапнаваць глебу.

У гэтым годзе, як толькі сойдзе сьнег, будзе арганізавана 5 млыноў па размолу вапнякоў. Гэта дасьць магчымасьць здабыць размолатай вапны, каб завапнаваць папар пад жыта на плошчы 50.000 гэкт., а астатняй вапнай завапнаваць зяблявае ворава.

6. *Шматпалёвыя севазвароты.* За апошнія гады ў палявой гаспадарцы Беларусі яскрава праходзіць працэс перабудовы яе ў інтэнсыўным напрамку ў бок павялічэньня прамыслова-таварных і кармавых культур. Адначасова адбываецца ўкараненьне ў палявую гаспадарку пладазьмену ў выглядзе значнага пашырэньня бульбы, караньплодаў, канюшыны і зьніжэньне незасеваемай плошчы—папару аблогай і г. д.

Гэтая перабудова сыстэмы палявой гаспадаркі праходзіць не ў аднальковым тэмпу па ўсім акругам.

Паказчыкі інтэнсыўнасьці гаспадаркі па асобных раёнах хістаюцца:

| | | |
|---|---|---|
| Незасеяны папар | ад 19 % | да 38 % |
| Бульба | „ 10,7 „ | „ 17,4 „ |
| Сеяныя травы | „ 0,5 „ | „ 8,0 „ |
| У тым ліку канюшына | „ 0,3 „ | „ 4,1 „ |

Усе акругі Беларусі па засеву канюшыны можна падзяліць на 4 раёны.

I. Мазырская і Гомельская.

II. Магілеўская і Полацкая.

III. Аршанская і Бабруйская.

IV. Менская і Віцебская.

Засеў канюшыны ў севазвароце рашуча ламае трохпалёўку, памяншае плошчу не занятага папару, павялічвае пасеў кармавых культур і тым самым вырашае кармавое пытаньне, палепшае структуру глебы і застаўляе насеньне сабе ў глебы вялікую колькасьць арганічнай масы, багатай азотам і такім чынам робіць уплыў на ўзрост ураджайнасьці. Наогул усе вышэйпералічаныя мерапрыемствы будуць даваць большы эфэкт, калі яны будуць праводзіцца ў гаспадарцы рэарганізаванай у шматпалёвы севазварот.

Савет Народных Камісараў у сваёй пастанове на ўздыму ўраджайнасьці рашуча прапануе разгарнуць працу па пераводу на шматпольле, каб к канцу пяцігодзьдзя перавесьці 50 проц. усёй плошчы пахаці.

Да сучаснага моманту ў нас уведзена шматпольле ў наступных гаспадарках:

| | Лік гаспадарак | На агульнай плошчы у гэктарах |
|---|---|---|
| У пасёлках . . | 57.810 | 506.853 |
| Вёсках . . . | 18.751 | 132.202 |
| Калгасах . . . | 611 | 66.195 |
| Хутарскіх гаспад. . | 9.704 | 104.296 |
| Усяго . | 86.876 | 809.546 |

Як уплывае шматпольле ў зьвязку з засевам у ім траў пераважна канюшыны на ўраджайнасьць можна паказаць на вылічэньні агранома Бойка (з часоп. Сельск. і Лясн. Гаспадарка № 7).

Уплыў гэты відаць з наступнай табліцы:

Уплыў засеву канюшыны на ўраджайнасьць культур за 1297 г.

| Засеў канюшыны у 0/0% (на 100 дзес. пасеву) | Ураджайнасьць з дзесяціны (у пуд.) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Жыта | Аўса | Ячменю | Бульбы |
| 0,3 | 32,8 | 39,3 | 38,2 | 534 |
| 1,6 | 35,6 | 36,5 | 42,5 | 640 |
| 2,4 | 42,2 | 42,1 | 45,5 | 681 |
| 3,9 | 43,1 | 39,8 | 47,3 | 644 |

З павялічэньнем росту засева канюшыны назіраецца ўзрост ураджайнасьці, што дае зрабіць станоўчы вывад— вялікае значэньне шматпольля ў сельскай гаспадарцы.

Другія мерапрыемствы, як па жывёлагадоўлі, вэтэрынарнай справе і інш., магчыма будзе даць у асобным артыкуле.

Акрамя таго ёсьць цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці, якія нельга раіць для ўсіх раёнаў Беларусі, а яны могуць і будуць праводзіцца ў асобных раёнах мясцовымі аграномамі, у зьвязку з чым у гэтым артыкуле таксама не закрануты.

*П. Заяц.*

---

# На мясцох

## Як працуе Смолевіцкая вячпартшкола.

Слабасьць працы ячэйкі—адсутнічаньне вучоту безпартыйнага актыву, правядзеньне працы у мястэчку наогул, без асабістай працы з беднатою, засьмечаннасьць камсамольскіх яч. чуждым эляментам—усё гэта мела адбітак на камплектаваньні школы.

Школа была укамплектавана у ліку 51 асобы. Па партыйнасьці—18 членаў і кандыдатаў КП(б)Б. 19 камсамольцаў і 14 безпартыйных. Рабочых 9, сельгасрабочых і батракоў 3, сялян 3, саматужнікаў 4 і служачых 32. Асабліва трэба зазначыць дрэнны падбор па сацыяльнаму складу з беспартыйнага актыву: з 14 асоб *12 служачых і толькі 2 рабочых.*

Усе слухачы былі падзелены па агульна-адукацыйнай і палітпадрыхтоўцы на дзьве групы. У аснову першай групы была пакладзена гісторыя партыі (па падручніку Папова) нарысы гісторыі УсеКП і з агульна-адукацыйных белмова, матэматыка і эканомгеаграфія. Для другой групы—гісторыя партыі (па Папову) і палітэканомія па Ляоньцеву, пачатковы курс палітэканоміі.

Да прычыны слабага наведваньня можна аднесьці наступнае:

1) Недастаткова сур'ёзныя адносіны з боку часткі слухачоў да вучобы (ненаведваньне бяз прычыны, скліканьне паседжаньняў у час заняткаў—МК саўгандлслужачых, РК ЛКСМ).

2) Адрыў часткі слухачоў на справаздачна-перавыбарчую кампанію с/с.

3) Праца на працягу 6 тыдняў дапрызпункту, на якім займалася 6 слухачоў.

4) Непрыстасаваньне памяшканьня і перабойнасьць у асьвятленьні, зрывы заняткаў.

Адсеў 12 асоб можна аднесьці на наступныя прычыны не наведваньня 3, як чужды элямент выключаны з комсамолу 5, у зьвязку з пераездам у другія мейсцы 4.

У школе праведзена 28 заняткаў, на якіх прапрацована ў першай групе 8 тэм па гісторыі партыі, па агульна адукацыйным дысцыплінам — уся праграма па матэматыцы (20 гадзін) і 12 гадзін па белмове. У другой групе 7 тэм па гісторыі партыі і 7 тэм па палітэканоміі і ў абодвых групах

па бягучай палітыцы праведзены тэмы: XI-ці годзьдзе Кастрычнікавае рэвалюцыі і праграма камінтэрну.

Усе праграмныя пытаньні (па гісторыі партыі) увязваліся з сучаснасьцю, напрыклад: трацкізм у пятым годзе і сучасны трацкізм, барацьба Леніна з ухіламі ў партыі і прамярэнствам з ім і барацьба партыі з ухіламі сучаснага моманту і г. д., таксама палітэканомія прапрацоўваецца у сувязі з тэорыяй савецкай эканомікі.

Часам наглядалася цяжкасьць усваеньня некаторых пастанаўленьняў, напрыклад: „сутнасьць эканамізму“, „тактыка партыі на асобных этапах рэволюцыі 5 году“, „абстрактны труд“, „фетэшызм тавару“ і др. Але ўсе гэтыя пытаньні растлумачаны і здавальняюча ўсвоены слухачамі. Наогул усваяемасьць здавальняючая.

Школа працуе два разы ў тыдзень па 3 гадзіны. Мэтад працы школы наступны: папярэдняе заданьне (пісьмовае) і ўводзіны да самастойнай працы—пасьля чаго слухачы групамі самастойна прапрацоўваюць матар'ял пад кіраўніцтвам кіраўніка, пасьля чаго праводзіцца падагульваючая гутарка. Па магчымасьці даецца навочны матар'ял.

Праводзілася гутарка па мэтодыцы самастойнай працы, але ня ўсе яшчэ слухачы ўмеюць самастойна працаваць, а таксама большасьць ня робяць запісаў прапрацоўваемага матар'ялу, пісьмовыя працы да апошняга часу не даваліся; у апошні час дана пісьмовая праца па зямельнай рэнце. Падручнікамі школа забясьпечана. Вучот працы вядзецца.

Нашы далейшыя задачы:

1) Павялічэньне наведваньня школы.

2) Для замацаваньня пройдзенага правесьці лекцыі па асобным гістарычным перыядам і асобным разьдзелам палітэканоміі.

3) Узмацненьне працы па замацаваньню навыкаў самастойнай працы.

*Грабштэйн.*

## На што трэба зьвярнуць увагу.

*(З вопыту аднэй школы).*

З пачатку году ў школу быў надзвычайны наплыў, у другім-жа паўгодзьдзі мы маем надзвычайны адсеў: з 58 асоб, якіх было з пачатку заняткаў у школе, зараз маецца ўсяго 20 і гэтыя прапускаюць заняткі. У чым прычына такога становішча?

Гэтых прычын некалькі. Па-першае—добраахвотнасьць камплектаваньня была праведзена нездавольняюча, ня лічыліся з жаданьнем кожнага паступаючага; па-другое—школа

працуе на беларускай мове, а ў школе маецца шмат таварышоў, якія беларускай мовы ня ведаюць ці слаба ведаюць; па-трэцяе—у час заняткаў склікаюцца розныя пасяджэньні і сходы, служачы вымушаны прапускаць заняткі і потым пропускі ўваходзяць у сыстэму. Я лічу, што неабходна склікаць нараду сакратароў ячэек і прапагандыстых для зьнішчэньня гэтых недахопаў.

Некалькі слоў аб працы інструктароў. Мне здаецца, што інструктар павінен праводзіць паказальныя заняткі з прапагандыстымі. Гэта была бы вельмі добрая мэтадычная дапамога прапагандысту. Інструктар прысутнічаў на занятках і заўважвае недахопы ў працы прапагандыста. На паказальных занятках ён можа паказаць, як іх выправіць, а то ён толькі запісвае свае заўвагі ў свой блёк-нот і ніякай карысьці ў працы школы не дае.

*Новы.*

## Там, дзе зьвяртаецца досыць увагі партвучобе.

З 92 партыйцаў раёну 82—83 ахоплены сталымі формамі вучобы, г. н. 90 проц. З іх 40 чал. займаецца ў раёнай вечпартшколе. Паміма партыйцаў у гэтай школе 10 камсамольцаў і 8 беспартыйных актівістых. Астатнія партыйцы займаюцца ў 8 гуртках, якія існуюць пры ячэйках раёна. Для кандыдатаў партыі мы стварылі гурткі па вывучэньню праграмы і ўстава партыі.

Заняткі ў гуртках праводзяцца ў дні партсходаў; кіраўнікі гэтых гурткоў маюць слабую падрыхтоўку; толькі 2 з іх скончылі Магілеўскую Саўпартшколу. За зіму была склікана адна нарада прапагандыстых вёскі.

У вечпартшколе да нядаўнага часу прапрацоўвалі пытаньні VI-га Конгрэсу Камінтэрну і Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б. Цяпер прыступілі да вывучэньня прадметаў.

---

## Партасьвета на Мазыршчыне.

Камплектаваньне, як правіла, праводзілася па прынцыпу добраахвотнасьці. Была праведзена значная папярэдняя растлумачыцельная работа. Пытаньне аб партвучобе абмяркоўвалася на партактыву на агульна-гарадзкім партсходзе, на адчыненых сходах партячэяк, а таксама на сходах рабочых. Усё-ж-а былі выпадкі скажэньня прынцыпаў дабраахвотнасьці, асабліва на вёсцы. Адсеў у сеці партыйнае асьветы невялікі. Галоўнай прычынай ад'езды.

Зрывы заняткаў зьяўляюцца ня рэдкім зьявішчам, асабліва у раёнах, дзе апоргі раёнаў зьяўляюцца кіраўнікамі школы. Наогул трэба казаць, што кампаніі (асабліва кампаніі па перавыбарам саветаў) зьявіліся галоўнай прычынай зрыву заняткаў. Агульна-адукацыйныя прадметы уведзены ва усе вечпартшколы, а ў перасоўках агранамія, прыродазнаўства.

Досыць значная работа праведзена апагабінэтам: праведзены 2 мэтадычныя нарады і нарада па мэтодыцы кансультацыі; падобран мясцовы матар'ял, які скадзен у дыаграмы; амаль уся гарадзкая партыйная сетка абслугоўваецца дадатковай літаратурай, якая патрэбна, як максымум для заданьняў і г. д.

Апрача гэтага габінэтам абслугоўваецца 152 завочніка.

*З.*

## Партвучоба у Полаччыне.

Уся растлумачыцельная работа праходзіла пад знакам шырокай папулярызацыі прынцыпаў добраахвотнасьці і свабодных форм вучобы. З гэтай мэтай былі зроблены спэцыяльныя выезды прапагандыстых у раёны і у вясковыя ячэйкі.

Ня гледзячы на шырокае прымяненьне у гэтым годзе індывідуальнага апросу партыйцаў, усё-ж быў шэраг выпадкаў мэханічнага камплектаваньня, што адбілася у далейшым наведваньні.

У сувязі з мабілізацыяй большай часткі прапагандыстых, а таксама слухачоў на кампанію па перавыбарам саветаў, заняткі на вёсцы былі спынены. Па гэтай-ж прычыне былі зрывы і у горадзе.

Ёсьць адсеў, больш па ВПШ, менш па адзіным школам палітграматы. Прычынамі адсеву, паміма зрываў, зьяўляюцца ня зусім добрая якасьць часткі кіраўнікоў, няуменьне зацікавіць слухачоў, частыя іх зьмены, а таксама неаднолькавасьць складу слухачоў, як вынік нездавальняючага камплектаваньня. Гэтыя таварышы у большасьці сваёй перайшлі у сетку гурткоў самаадукацыі. Гурткоў самаадукацыі 28, з іх 26 у раёнах і 2 у горадзе. Прадметных гурткоў наогул па вакрузе маецца 76. Самаадукацыяй кіруе апагабінэт, а у раёнах часткова апакуткі. У сувязі з кампаніямі самаадукацыя на вёсцы аслабла.

*М.*

# Хроніка

## Менская акруговая агітпропнарада.

19—21 лютага ў Менску адбылася нарада агітпрапрацаўнікоў і прапагандыстых. На нарадзе былі заслуханы даклады з мест аб становішчы партасьветы і культмасавай рабоце. Даклад тав. Цэнцыпера аб „Чарговых задачах агітпрапработы“ і г. д. Па дакладам разгарнуліся вельмі ажыўленыя спрэчкі. Даклады і спрэчкі выкрылі цэлы шэраг недахопаў у агітпрапрацы.

У наступным нумары будзе зьмешчана падрабязна справаздача аб нарадзе.

* * *

Па Менску ідзе абгляд пастаноўкі агітпрапрацы ў ячэйках. Дзеля абгляду выдзелены 12—15 чал., якім даручана абглядзець 15 ячэяк.

* * *

Па акругам БССР пачынаюць праводзіцца эпізодычныя лекцыі для актыву Менскімі лектарамі. У Віцебску праведзены лекцыі т. Канопліна; у бліжайшы час выяжджае тав. Выдра для чыткі лекцыі аб дыалектычным і механістычным матар'ялізьме ў Воршу, Віцебск і Полацк, а т. Рыўлін у Віцебск.

---

# Бібліографія

## Як павінен жыць і працаваць наш актыў.

*(Па поваду кніжкі праф. Залькінда „Работа і быт общественного актива“ изд. „Московск. рабочий“, 128 стар., ц. 45 к.).*

Высунутыя праф.—камуністам А. Б. Залкіндам пытаньні аб „рабоце і быце грамадзянскага актыву“ набываюць вялічэзнае значэньне для партактыву. Неабходнасьць і своечасовасьць ужываньня мер па рацыяналізацыі мазгавой працы, гігіены гэтай працы і культуры мазгоў падкрэсьлены правільна і надта пераконваючы.

Ва ўводзінах да сваей брашуры тав. Залкінд указвае, што Кастрычнікавая рэвалюцыя раскалыхала мазгі шырокага рабочага і сялянскага грамадзкага актыву, які ўсё больш глыбока ўцягваецца ва адказнае будаўніцтва... Адбуджаюцца ад векавой драматы мазгі „нацыянальных меньшасьцяў“ СССР... Узрастаюць мазгавыя запытаньні ўсёй шырокай масы працоўных... Да нэрвовай сыстэмы савецкага насельніцтва прад'яўляецца вялічэзны заказ... „Усё гэта высоўвае ў першую чаргу „пытаньні аб мазгавой гігіене, культуры мазгавой працы... побач з пытаньнямі вытворчасьці і агульнай культуры. „Гэтыя пытаньні набываюць асаблівае значэньне, паколькі асноўны цяжар рэвалюцыйнай барацьбы зваліўся, зразумела, на наш актыў, ён асабліва дорага расплачваецца за перамогі Кастрычніка. Захвараваньні сярод партактыву асабліва вялікі, бо рэвалюцыйныя абставіны не даюць яму ніякага адпачынку і ніякага тэрміну. Усё гэта асабліва адбіваецца на сардэчна-судзінай і нэрвовай сыстэмах і на „абмене веществ партактыву“. Для апошняга спэцыфічна наступная „мэдычная трыяда“—склэразізм, артрытызм, нэўролізм“. У тав. Леніна наступіў рана склэроз мазгоў, у т. Дзяржынскага, Нарыманава, Таратура і інш.—раньні склэроз сэрца. Дзесяткі процэнтаў партактыў пакутваюць нэўрозамі: ВНУзаўскі партактыў налічвае да 30 проц. нэўрозаў і да 60—70 проц. агульных захвараваньняў. Такія зьявы выклікаюцца вялікай перагружанасьцю партактыву, вялізарнай напруджанасьцю, хваляваньнямі і працай у няспрыяючых умовах, у якіх прыходзіцца працаваць партактыву. Надта складанае біалёгічнае ўзрушэньне зрабілі на партактыву таксама і две эпохі, эпоха Кастрычніка і эпоха НЭП'а „пераход ад падпольля да вялічэзнай

работы, да ўлады ня толькі з'яўляецца выбухам сацыяльнага асяродзішча, але і крохканьнем усіх былых біалёгічных звычаяў... Пераход ад быту і спосабаў ваеннага камунізма да эпохі НЭП'а, ад баевай гарачкі, якая зьмянілася будзёнымі драбніцамі—таксама зьяўляецца працэсам, які патрабуе складанай перабудовы ўнутры арганізму". Вынікі нагрузак гэтых абедзьвух эпох таксама і да кастрычнікавай эпохі асабліва сказваюцца цяпер, і разам з прафэсыянальнымі шкодамі працы грамадзкага працаўніка даюць зусім новую „уласную" калекцыю захвараваньняў, якая наглядаецца ў партактыву.

Прафшкоды партактыву галоўным чынам адбіваюцца на яго мазгох, дыхальнай і сярдэчна-судзінай сыстэмах. Вялікая арганізацыйная работа, „ударнасьць" задач, выступленьні з дакладамі, праца ў духаце, няўжываньне сваячасовага харчоўнага, рухавага і наогул гігіенічнага рэжыму і вечныя смарганьні даволі часта зьяўляюцца прычынамі гэтых „прафшкоднасьцяй". Вялікія, бліскучыя сацыяльныя вынікі вельмі дорага каштуюць біалёгічна партактыву. Вось чаму безадкладна трэба паставіць пытаньне аб рацыяналізацыі „спаленьня" нэрвовай тканкі і інш. сыстэм і аб зьмяншэньні „прафшкоднасьцяй" у працы актыву.

Мазгавая праца мае свае законы: „1) Мазгавая вытворчасьць" працягваецца нават і пасьля спыненьня сьвядомай, волявай мазгавой дзейнасьці. Узбуджаная адзін раз мазгавая праца яшчэ доўга працуе і па сканчэньні нагрузкі. Гэтым адрозьніваецца мазгавая дзейнасьць ад мышачнай, якая, як вядома, пачынае зараз свой адпачынак, як толькі канчаецца самая работа. 2) Зморaная нэрвовая каморка, з якіх складаюцца мазгі, уладае здольнасьцю хутка ўзбуджацца (т. зв. раздразьлівая слабасьць) і такое ўзбуджэньне выклікае ўжо невазьмяшчальныя страты. 3) Сур'ёзная напружаная мазгавая праца зьвязана з узмоцненым крыванапаўненьнем мазгавой кары і выклікае паслабленьне крываадвароту ва ўсім арганізме. Адсюль вялы крываадварот у канцавінах і тулаве, вяласьць цягліц, вялае раскалыханьне страўнікавага апарату, замаруднненьне працэсаў абмена, дыханьня і г. д. 4) Мазгавая кара, у якой знаходзіцца апарат мазгавой працы, можа працаваць прадукцыйна толькі пры надта ўпарадкаваным рэжыме. 5) Самая праца павінна быць непасрэдна „абмазгавана", „асознана". Усякае адступленьне ад гэтых законаў адбіваецца як на якасьці працы „мазгавога працаўніка", таксама і на здароўі яго нэрвовай сыстэмы. Дзеля гэтага актыў павінен упарадкаваць увесь рэжым свайго жыцьця і працы і прыстасоўваць іх да законаў фізыялёгіі. Правядзеньне прафілактыкі мазгавой працы зьяўляецца аднэй з найбольш важных задач сучаснага моманту. Мінімальны рэжым наступны: ня меньш сямі гадзін для начнога сна і ня меньш аднэй гадзіны для *поўнага* адпачынку у

дзень. Актыў павінен мець адну гадзіну ў дзень для пакойнага руху на паветры і пры свабодных ад працы поўдні на працягу тыдзеня. Актыў павінен карміцца ня меньш 3-х разоў на дзень. Напружаная праца не павінна працягвацца больш 3-х гадзін без перапынку і нават і на працягу гэтага часу трэба таксама ўжываць лёгкія рухі. Працу трэба спыніць за гадзіну да сна. Перад сном абавязкова прагуляцца. Есьці патрэбна ў пэўныя гадзіны. Пасьля абеду паляжаць. Вячэраць не пазьней як за 2—$2^1/_2$ гадзіны да сна. Ня меньш $1^1/_2$ гадзіны штодзённа праводзіць на сьвежым паветры. Склад самай еды павінен адпавядаць патрэбам мазгавой работы: Пры працы мазгоў больш усяго маюцца страты бялкоў і фасфорыстых матар'ялаў. Яны павінны быць запоўнены. Паменьш пагэтаму трэба ўжываць вугляводы (хлеб і г. д.), а больш белкавіны (мяса, рыбы і г. д.) вугляводы— каля 60 проц., усёй яжы павінны складаць белкі (рыба, мяса і інш.), жывельныя тлушчавыя прадукты каля 25 проц., фасфорочныя солі (якія значна знаходзяцца ў яінасных жоўтках, ва ікры), вітаміны А (масла каравянае, морква, таматы і г. д.) і вітаміны Б (бабы, рыс, шпынат, кветная капуста, ягады і г. д.). Есьці трэба таксама ўпарадкавана, ня сьпяшаючы, пераржваючы, ня раскідана. Лёгкая гімнастыка, пакойны лёгкі спорт, пагулянка на паветры неабходна для працы мазгоў, крываходнай і дыхальнай сыстэмы. Ня цяжкія фізкультурныя ўпражненьні карысны, а лёгкая гімнастыка 2 разы ў дзень па 4—5 хвілін раніцай і пасьля абедзенага перапынку. Абціраньні цела, не сядзець увесь час працы на адным мейсцы, лёгкі спорт надта карысны, але абціраньні і спорт трэба ўжываць толькі пасьля санкцыі ўрача. Пабольш сьвежага паветры! Праветрываць пакоі, мейсца працы, спаць у праветраным пакоі, пагулянкі на паветры—вось што неабходна „мазгавіку“, рытмічна дыхаць, кінуць курэньне, якое выклікае атручэньне нэрвнай сыстэмы і спазм дыханьня, трэніраваньне гутаркі шляхам правільнага дыханьня—вось што важна для разумовага працаўніка.

У адносінах да палавой гігіены ня аскэтызм, але і не надзвычайная штучная ушрубаванасьць „Кахальна-маральны пацяг, насычаны моцным і глыбокім пачуцьцём, разрадка лішкавага узбуджэньня, асьвяжэньне тканак—усё гэтае дае бадзёрасьць мазгавым працэсам г. зн, рацыяналізуе мазгавую працу". Сон парушаецца ад няправільнага рэжыму працы і жыцьця і таму барацьба з перагрузкай і нерацыянальным жыцьцём ёсьць барацьба за сон. Бяз гэтых момантаў ніякія лекавыя сродкі, водалячэньні не даюць ніякіх вынікаў. Адпачынак павінен быць разумным, алкаголь, наркатычныя сродкі, азарт толькі узрушаюць нэрвовую сыстэму і павінны быць выгнаны з ужытку мазгавога працаўніка. *Той, хто ня здолен адпачываць, той і працаваць ня здолен.* Тое, што

глядзяць на адпачынак у нашы баявые дні толькі як на чысты выдатак, страту, паказвае толькі адсутнасьць дыялектыкі у падыходзе да псыхофізыалёгіі чалавека. Правільнае скарыстаньне адпачынкам павялічвае прадукцыйнасьць працы мазгавых працаўнікоў. Разумовая праца разьвінаецца пасьпяхова і карысна толькі пры лёгічных асацыяцыях, паступовасьць, разьмеркаваньні тэмпу і ва ўмовах добрага агульнага самапачуцьця. Адцягненьні, раскіданасьць, перакідваньні, смарганьні, працы пад прымусам толькі псуюць агульную працу. Вялікія задачы, якія высунуты рабочае клясай і камуністычнай партыяй, патрабуюць дзеля гэтага ад грамадзянскага актыву ўжываньня 1) рацыяналінацыі агульна фізыёлёгічных працэсаў (рэжым, харчаваньне, адпачынак і г. д.), 2) рацыяналізацыі ўмоў асяродзішча і абставін працы і 3) рацыяналізацыі непасрэдных мазгавых працэсаў. Апошняе магчыма толькі пры канцэнтрацыі увагі. Умовы працы павінны дапамагаць канцэнтрацыі ўвагі працоўніка, а не раскідваць яго. Трэба, каб усе матар'ялы, крыніцы, неабходныя для правадзімага заданьня, былі пад рукамі, „павінны быць зьнішчаны усякія шумныя раздражэньні. Самая разумовая праца павінна быць пляніравана, сыстэматызыравана і павінна прытрымліваццa біалёгічнай працаздольнасьці данага працаўніка. Перагружанасьць як тэхнічная, таксама і мазгавая толькі шкодзяць працы. Мазгі трэба разгружаць ад лішкавай працы шляхам запісаў, упарадкаваньня і разьмеркаваньня усяго тэмпу працы і ўмоў працы.

Аб усіх гэтых надзвычайна актуальных пытаньнях гаворыць т. Залкінд у сваёй кніжцы Яны не надуманы, яны маюць вялічэзнае значэньне. Гігіена мазгавой працы—праблема сягодняшняга дню і ад скарыстаньня гэтае гігіены ў значнай ступені залежыць і тэмп нашае працы. Аўтар піша, што яго нарады могуць паказацца некаторым „фантастычнымі", гэтага не павінна быць. Тав. Ленін учыў, што „пралетарскую культуру магчыма будаваць толькі дасканальным веданьнем культуры, якая створана ўсім разьвіцьцём чалавецтва, толькі перапрацоўкай яе". Буржуазія даўно навучылася скарыстацца гігіенай і прафілактыкай мазгавой працы, але яна карыстаецца ёй для эксплёатацыі працоўных. мы павінны перапрацаваць гігіену мазгавой працы для канчатковай перамогі пралетарыяту.

Кніжка напісана лёгка і яна павінна стаць ня толькі падручнікам партактыву, але кожны дзень напамінаць аб рацыяналізацыі сваёй працы ва інтарэсах усёй рабочай клясы.

**Др. М. Хазаноў.**

**Ад рэдакцыі.** У наступных нумарох нашай часопісі будуць зьмешчаны артыкулы аб іншых пытаньнях рацыналізацыі працы актыву, аб спосабах гэтай рацыяналізацыі.

# ЗЬМЕСТ

